# НАША НІВА

*Беларуская газэта* **№1, 1995**


**ЦАНА КУЛЬТУРЫ.** Калёквіюм у рэдакцыі «НН» пра тое, чым аплочаныя нашы сёньняшнія мова і незалежнасьць.

**БЕЛАРУСКІ БЭСТСЭЛЕР 1994.** Статыстыка прадавальнасьці беларускіх кніг у цэнтральных менскіх кнігарнях.

**АМЭРЫКАНСКІ РАМАН** перажывае сёньня свой залаты век. Творы, пра якія не даводзілася чуць...

**ФЕНЕЧКА —** кароткі слоўнік менскіх хіпі і панкаў канца 70-х і пачатку 80-х гадоў, складзены Адамам Глёбусам.

# МАСТАЦТВА НЕНАРОДЖАНЫХ



**ЖАХЛІВАЕ АПАВЯДАНЬНЕ**

# Жаніх панны Данусі

Людміла Рублеўская

**За месяцам месяц мінае.**
**Вось вершнік у шыбу грукае**
**Увосень парою начною:**
**«Ты помніш ці не, дарагая,**
**Як колісь мяне кахала?**
**Сядай на каня са мною!»**
**«Мой любы, паўсюль з табою!»**

*Старажытная нямецкая баляда*

Парцалянавыя пастух і пастушка прайшліся ў танцы пад пяшчотную мэлёдыйку «Ах, мой мілы Аўгусьцін!», і бялюткія парцалянавыя ж галубкі над імі далікатна сутыкнуліся ружовымі дзюбкамі. Гадзіньнік прабіў дзевяць вечара.

Панна Дануся, пекная выпускніца Марыінскай жаночай гімназіі гораду М, закінула ў сакаўны раток чарговую порцыю разынак. Ах, як сумна... Татуся й мамуся сышлі ў госьці, на двары сеецца дробны кастрычніцкі дождж, занудлівы, як настаўнік лаціны, і няма як разьвеяцца беднай паненцы, бо прыстойная заручоная дзяўчына ня мусіць цягацца па сьцямнелым мястэчку ў пошуках прыгодаў... Адно суцяшае — заўтра Дануся будзе сьпяваць у хоры Апякунства аматараў цьвярозасьці, а пасьля — танцы! Аркестар! Дабрачынны кірмаш, і шляхетны Генусь з Акцызнага банку падносіць вазачку з цукеркамі...

Пад уплывам салодкіх мрояў панна Дануся ўкінула ў раток яшчэ прыгаршчу разынак і закруцілася на абабітай сінім у ружовыя кветкі аксамітам канапе, ад чаго тая жалосна ўскрыкнула ўсімі спружынамі. «Дануся, Вы сапраўдная Рубэнсаўская кабета», — казаў выкладчык гімнастыкі Марыінскай жаночай гімназіі пан Саміч, калі гімназістка Данута Тап-тэвіч ніяк не патрапляла ў тахт з аднаклясьніцамі ў справе даставаньня далонямі наскоў туфлікаў...

Не, нямногага дабіліся жанчыны ў справе эмансыпацыі! Толькі што падчас Францускай рэвалюцыі дамагліся права насіць трусікі...

Прагрэсіўныя роздумы панны Данусі перарваў стук у шыбу.

— Дануся! Адчыні! Гэта я, Габрусь!

Пекная дзяўчына налляцела да вакна пад рыпучы ўздых палёгкі вызваленай канапы. Сапраўды — за мокрай шыбай бялеў выцягнуты твар Данусінага нарачонага Габруся. Твар гэты чамусьці заўсёды нагадваў Данусі рабочую паверхню прэс-пап'е, хаця якая тут магла б быць асацыяцыя — хіба прэс-пап'е мае круглыя акуляры з пазалочанымі дужкамі і чырвоныя прышчыкі!

Аднак — чаму гэткі нечаканы візыт?

— Ты ж павінен быць на інспэкцыі чыгункі! — пракрычала Дануся.

— Я прыехаў да цябе, маёй даражэнькай нявесты, — трохі глухавата, але цалкам разборліва прагаварыў Габрусь. — Выходзь хутчэй, пакатаесься на маім аўтамабілі...

Аўтамабіль! Белы выцягнуты твар Габруся раптам падаўся Данусі вельмі сымпатычным і інтэлігентным. Аўтамабіляў у горадзе М было пяць — жыхары ведалі кожны і кожнага зь іх уладальнікаў. Праехацца ў шыкоўным увасабленьні прагрэсу — запаветная мара местачковай паненкі... Дануся бегма кінулася адчыняць дзьверы дарагому госьцю, на хаду выдзіраючы з буйных кудзераў папілёткі.

Габрусь быў у сваёй строгай форме службоўца чыгуначнай управы. Паўзьверх фуражкі ён нацягнуў башлык, так што з усяго твару відаць былі толькі бліскучыя акуляры.

— Я прыйшоў па цябе, Данута... Ці помніш ты словы каханьня...

Але Дануся ня слухала сэнтымэнтальнае мармытаньне жаніха. На вуліцы, перад варотцамі, сапраўды стаяў аўтамабіль! Ён быў бліскучы, як калядная елка, і ўрачысты, як духавы аркестар.

«Хутка сьцямнее!» — мільганула ў Данусінай завітай галоўцы. — «Ніхто не пабачыць! Трэба тэрмінова ехаць!»

Габрусь адмовіўся зайсьці ў дом і пачакаць, пакуль нявеста апранецца. Ён, як слуп, стаяў перад дзьвярыма, і Дануся нават праз сеніцы чула ўпартыя разважаньні пра незямное каханьне.

Дождж, напэўна, ад усьведамленьня ўрачыстасьці моманту, прыпыніўся. Габрусёва нявеста пераможна апусьцілася на мяккае скуранае сядзеньне аўто. Машына

*Працяг на старонцы 4*

# Дзёньнік прыватнага чалавека



Што рабіць старым, некалі прызнаным мэтрам, калі паміраюць усе іхнія крытыкі, якія зрабілі іх прызнанымі? Што рабіць Максіму Танку й Янку Брылю пасьля таго, як ня стала Ўладзіміра Калесьніка? Зьмянілася эпоха, і ўжо ніхто ня здолее рабіць іх прызнанымі далей, нават калі захоча — ня хопіць таленту, прафэсіяналізму, разуменьня...

//////////////

У 1863 г. *бандыцкія фармаваньні* Кастуся Каліноўскага вялі ўзброеную барацьбу з часткамі *фэдэральнай* расейскай арміі. Бандыты мелі перад сабой сэпаратысцкія мэты, армія выконвала сьвяшчэнную задачу — захаваць тэрытарыяльную цэласнасьць Расеі. Урэшце банды былі разьбітыя, Каліноўскі павешаны. Расейская прэса вітала перамогу ў самых патрыятычных выразах. Але не прайшло й 100 гадоў, як усё стала выглядаць наадварот. Нацыянальны герой Беларусі Кастусь Каліноўскі змагаўся з царскімі агрэсарамі за незалежнасьць бацькаўшчыны. Нікому і ў галаву не прыходзіла назваць адну зь менскіх вуліц імем генэрала Мураўёва або палкоўніка Лосева.

Прыведзены прыклад — тыповы. Гэта правіла, закон, аксыёма. І гэта значыць, што што б сёньня ні пісалі ў маскоўскім друку пра Дудаева — праз 100 гадоў ягоным імем усё адно будзе названы цэнтральны праспэкт Грознага... Ці ня кожны народ, які ў гісторыі «меў справу» з Расеяй, мае й свайго бандыта-збавіцеля Каліноўскага!

А цяпер сфармулюем закон: кожная падзея расейскай (у шырокім сэнсе) мінуўшчыны, становячыся гісторыяй, набывае адваротнае значэньне. Паміж сучаснымі афіцыйнымі трактоўкамі і гістарычнымі ацэнкамі ляжыць час. Вялікая рэвалюцыя 1917-га скончылася ў 1991-м — і вось яна ўжо кастрычніцкі пераварот. Сталін памёр — і ён ужо тыран...

Усё сказанае — агульнавядомае й ляжыць на паверхні. Але яно спатрэбілася мне, каб загаварыць пра мінулую вайну — Вялікую Айчынную, другую сусьветную, бойку чорта з д'яблам. Ужо ў гэтых назвах выяўляецца тэндэнцыя да зьмены ацэнак на адваротныя. Праходзіць час, і няўмольны закон расейскай гісторыі патрабуе свайго. Але вайна яшчэ ў поўнай меры ня стала гісторыяй. І сёньня, калі адныя рыхтуюцца падкрэсьлена ўрачыста адзначыць 50-годзьдзе Вялікай Перамогі, другія настойліва гавораць пра заградатрады, герояў-калябарантаў і тое, «хто ж урэшце аказаўся пераможцам», трэція імкнуцца вярнуць ідэалягічныя каштоўнасьці імпэрыі, чацьвертыя прымяркоўваюць «пад шумок» залагодзіць свае дзялішкі, напрыклад, правесьці ў Дзень Перамогі парляманцкія выбары — каб яшчэ хоць трохі затрымацца ва ўчарашнім дні — такім знаёмым у параўнаньні з прапасным заўтрам.

Але заўтра ўсё адно ўсё пераацэняць. Сёньняшнія маладыя дафеністы нічога не разумеюць у той вайне. І наогул — гісторыя з сваімі ацэнкамі нічога не разумее ў сучаснасьці. Будучыня — каварная здрадніца. Мне здаецца, менавіта так думае сёньня расчараваны вэтэран.

Але ці гісторыя тут вінаватая? Пры ўсім каварстве расейскай гісторыі мяняюцца толькі ацэнкі ўлады, усё астатняе застаецца нязьменным навечна. Праблема толькі ў тым, што ў расейскай сьвядомасьці менавіта ўладны (ідэалягічны) фактар лічыцца першасным і вызначае ўсе астатнія.

Веліч перамогі над фашызмам для многіх асацыюецца зь веліччу сыстэмы, у корані сваім заганнай, якая ня менш велічна адмаўляецца сёньня. Заўтра пра яе забудуць, і разам забудуць пра веліч перамогі над фашызмам.

Няма сумневу ў праведнасьці ўчынкаў салдата, які загінуў на перадавой і маршала, які ўдала сплянаваў і правёў апэрацыю й перамог. Але, — разважае вэтэран — і салдат, і маршал баранілі вялікую краіну, якая цяпер развалілася сама.

Тут відавочны канфлікт — паміж тым, за што змагаліся, і тым, супраць чаго. За савецкім часам невымерна больш увагі надавалася першаму, і людзі менш думалі пра другое, страчвалі антываенны, антыфашысцкі імунітэт, не перадалі яго наступнаму пакаленьню. Затое перадалі веліч краіны й сыстэмы. Але што зь ім рабіць цяпер?

Рана ці позна вайна ўсё ж стане гісторыяй канчаткова. Яе пераацэнка адбудзецца разам з стварэньнем нацыянальных гісторый замест адзінай савецкай. Кожная нацыя будзе фармаваць свой погляд на перамогі й паразы ў той вайне. Сталінградзкая бітва можа стаць знакам беларускай гісторыі побач з Грунвальдам, у якім сумеснымі дзеяньнямі ўжо была аднойчы спыненая нямецкая агрэсія на ўсход. Слава пераможцаў не паблякне ад таго, што акцэнт «за Родину, за Сталина» будзе зьменены на антыфашызм.

//////////////

Ідэальнае месца для пісаньня дзёньніка — гарадзкі транспарт. Пра што, ты думаеш, маўчаць усе гэтыя людзі ў аўтобусах, трамваях і падземках? Яны *вядуць дзёньнік*.

//////////////

Савецкая мадэль дыялёгу культур цалкам замяняла сабою традыцыйную. І сёньня паміж беларускай і літоўскай культурамі ўвогуле не існуе ніякага дыялёгу, ніякіх адносінаў. Невядома, як падыйсьці і да каго і з чым. Мы нават не намацваем гэты шлях. Мы не адчуваем патрэбы ў ім. Мы не сваякі й не суседзі. Мы мінакі на вуліцы, абыякавыя адзін да аднаго.

Пры камунізме была «дружба народаў». Зьверху было зададзена, што мы ўсе сябры. Пасьля гэтую няшчырую дружбу пачалі высьмейваць, пасьля адкінулі разам з камунізмам. Але, аказалася, што на яе месцы нічога (нічога з дасавецкага часу) ўжо няма.

Міжкультурныя сувязі, якія нарошчваюцца гадамі, цяпер нават не нарошчваюцца. Тое самае з Расеяй, з Украінай, з Латвіяй... Штосьці можна казаць хіба пра беларуска-польскі культурны дыялёг. Але й ён ініцыяваны збольшага ня намі.

//////////////

У сувязі з гэтым варта згадаць пра зусім новую зьяву — патрэбу абуджаць у сабе цікавасьць. Набыў часопіс, прысьвечаны Міхасю Стральцову. Сказаў сабе: гэта Стральцоў, гэта цікава, — і толькі тады прачытваеш. Дачытаў і цікавасьць за непатрэбнасьцю выключаеш. Маўляў, «уходя, гасите свет». Пайшоў у кіно і сам сабе шэпчаш: гэта Фэліні, гэта цікава. Узяў літоўскі літаратурны часопіс і кажаш сабе: гэта літоўскі літаратурны часопіс... Гэта значыць, што ўсё менш застаецца культурных зьяваў, дзеля якіх ня трэба было б скокаць праз гэты бар'ер — абуджаць у сабе цікавасьць. Можа гэта — пра асабістае? А можа і не...

# ЦАНА

## *Фрагмэнты калёквіюму*

...

Беларуская інтэлігенцыя жыве ўсё яшчэ пры Брэжневе. Зарабляе грошы, палітыкуе й «бярэ ад жыцьця» яна сёньня й тут, але не як нацыянальная інтэлігенцыя. Як такая яна — там. Бо нічога па сутнасьці не зьмянілася з тых часоў у яе выданьнях, сходах, адносінах да ўлады, ролі ў грамадзкім жыцьці.

...

Беларуская інтэлігенцыя не *гаворыць пра жыцьцё*. Ці гэта палон нацменскай замкнёнасьці; ці — боязь, што не пачуюць; ці няспрыт журналістаў; ці замыканьне ў творчасьці, уласьцівае для часоў усеагульнай дэмаралізацыі; ці сумнеў у сваёй адпаведнасьці свайму месцу; ці ўсё разам?.. Уладальнікі думак і жаданьняў нацыі маўчаць. Ёсьць шмат прычын. У каго — старасьць, у каго — маладосьць... Па-мойму, інтэлігенцыя ня мусіць «ісьці ў палітыку», яе месца вышэй. Але яна мусіць *гаварыць пра жыцьцё*. Так, каб яе слова станавілася зьявай у агульнай сьвядомасьці... А можа, яна не маўчыць? Можа, гаворыць, ды толькі голас яе мікшыруецца мікрафонамі, глухне за тоўстымі сьценамі сходаў, губляецца на старонках асобных газэт? Памятаю, апошні заўважны, але бясьсільны стогн — калі пісьменьнікаў абазвалі дармаедамі. Тады Янка Брыль у нейкай газэце заўважыў: раней нас ганаравалі памочнікамі партыі, а цяпер — дармаедамі. Гэта было гадоў пяць назад. І ўсё... Сёньня Ніл Гілевіч на трыбуне Вярхоўнага Савету ўспрымаецца толькі як дэпутат, як функцыянэр. Званьне народнага паэта — як недарэчны каляровы бант на марынарцы старшыні парляманцкай камісіі.

Можа, няма ў нас ніякай інтэлігенцыі? І сапраўдныя ўладальнікі думак і жаданьняў — усе гэтыя шэрыя й часовыя людзі, у якіх і не западозрыш сумленьня і якія тоўпяцца сёньня на радыё і ля карміла ўлады. Хто, які старэйшына дасьць ацэнку

# Ці прывядзе да храму дарога,

Ігар Чарняўскі

**Сёньня ўжо цяжка прыгадаць, пра што была апошняя прадметная дыскусія ў межах беларускай культуры. Тым больш каштоўная для нас гутарка пра рэстаўрацыю Магілёўскае архікатэдры — вузкаспэцыяльныя, культурныя і этычныя аргумэнты спэцыялістаў тут сплятаюцца ў адно — у размову пра сучаснае становішча нашых помнікаў. Сьледам за Вадзімам Гліньнікам і Фэліксам Янушкевічам свае погляды выказвае Ігар Чарняўскі.**



Ці думаў хто ў «НН», што першая беларуская публікацыя да 30-годзьдзя «Вэнэцыянскае хартыі» («НН», 1994. №8-9) гэтага падставовага міжнароднага дакумэнта — выкліча такі эмацыйны водгук аўтара «Адкрытага ліста» («НН», 1995. №11)? З чаго ўсё гэта, калі ёсьць факт зьнішчэньня часткі жывапісу, як і факт панаўленьня значных яго фрагмэнтаў у магілёўскім касьцёле Станіслава, што могуць пацьвердзіць хоць у судзе, хоць перад уласным сумленьнем сябры Навукова-мэтадычнай рады па пытаньнях гісторыка-культурнай спадчыны пры ДзІнАС? Заглыбленая пры жаданьні ў прафэсійныя аспэкты, гаворка магла б весьціся, бадай, вакол слушнасьці прымяненьня той ці іншай мэтодыкі рэстаўрацыі або неабходнасьці ўвогуле яе выпрацоўкі для Беларусі.

Менавіта пра гэта напісаў у №11 «НН» Вадзім Гліньнік. Не паўтараючы відавочнае, пагаворым пра рэчы, якія засталіся па-за ўвагай аўтара публікацыі, але маюць прынцыповае значэньне для рэстаўрацыйнай сфэры асабліва пры цяперашнім стане грамадзка-культурных дый палітычных працэсаў у Беларусі. Падобна, што менавіта беларуская іх спэцыфіка змусіла аўтара «Адкрытага ліста» весьці гаворку не па сутнасьці страты часткі жывапісу і адступленьня ад мэтодыкі вядзеньня рэстаўрацыйных работ, а акцэнтаваць увагу на іншым.

Ад памылак, вядома, ніхто не застрахаваны. Нават прафэсіяналы. Але той жа прафэсіянал дзеля доказу ўласнай слушнасьці будзе карыстацца аргумэнтам, фактам, урэшце, нумарам, датай, артыкулам дакумэнта. Менавіта зыходзячы з наяўнасьці ці адсутнасьці гэтых абавязковых чыньнікаў рэстаўрацыйнага працэсу й неабходна разглядаць ход работ у Станіслаўскім касьцёле.

Яшчэ на выязным паседжаньні Навукова-мэтадычнай рады ў Магілёве адзначалася, што рэстаўрацыя жывапісу ў касьцёле праводзіцца без абмеркаванай і зацьверджанай ва ўстаноўленым парадку канцэпцыі. З гледзішча вонкавага эфэкту — сьвежасьць колеру, ударныя тэмпы работ — можна было б і не акцэнтаваць увагу на страце прыкметаў гісторыка-культурнай каштоўнасьці. У сфэры аховы спадчыны вядомыя й не такія выпадкі. Падобны ход падзеяў, зрэшты, можа быць апраўданы адсутнасьцю «беларускага кодэксу рэстаўрацыйнай этыкі», пра што й піша В.Гліньнік. Але ён жа, па-сутнасьці, даводзіць, што ўпершыню апублікаваная летась на беларускай мове «Вэнэцыянская хартыя», як і іншыя міжнародныя дакумэнты на расейскай, ангельскай ці францускай мовах, ніколі не былі засакрэчаныя для беларускіх рэстаўратараў.



Назіраючы за дыскусіяй вакол Станіславаўскага касьцёла, варта ведаць, што й пасьля прыняцьця Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусі восеньню 1992 г. дастаткова падрабязнага Закону аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны захоўваецца досыць адвольная трактоўка падыходаў да яе й тэрміналягічная блытаніна. Гэтыя акалічнасьці нярэдка становяцца прычынай безуважлівага стаўленьня праваахоўных органаў да фактаў парушэньня заканадаўства аб ахове спадчыны. За апошнія гады прыпамінаецца, бадай, адзіны выпадак, калі рэспубліканскай пракуратурай прызнаны факт парушэньня закону пры зносе будынка ў гістарычнай зоне Горадні. Перад тым, дарэчы, гарадзенская гарадзкая пракуратура ў дзеяньнях разбуральнікаў крыміналу ня ўгледзела. Тлумачэньне такой няўвагі банальнае, маўляў, не йснавала «прэцэдэнту пакараньня за зьнішчэньне помнікаў» з прычыны адсутнасьці «падобнай практыкі» (?!).

# КУЛЬТУРЫ

*ў рэдакцыі «НН»*

гэтаму прэзыдэнту, гэтай палітыцы, гэтаму жыцьцю, як не народны пісьменьнік і паэт? А можа, няма ў нас ніякіх народных, каго б адразу пачуў народ? Хіба што адзін Вядзьмак Лысагорскі як колісь, так і цяпер, можа зноў узвысіць свой голас і стаць зьявай для ўсяго народу? Але хто ведае, наколькі ананімная шчырасьць нашых прарокаў вызначае далейшую ананімнасьць мовы, краіны, незалежнасьці?..

...

Існуе стэрэатып, што ў Беларусі за савецкім часам не было дысыдэнцтва. Але тут уся справа ў інтэрпрэтацыях. Падпісваў нейкія лісты — ну й што?! Выгналі з працы — і чаго дамогся? Давялі да інфаркту — сам вінаваты... Але гэтак можна праінтэрпрэтаваць любы супраціў — і расейскі, і чэскі... Між тым дысыдэнцтва — гэта цана культуры, дэмакратыі, незалежнасьці. І сьледам за згаданым стэрэатыпам у нас нараджаецца другі — беларуская незалежнасьць нічым не аплочаная, а значыць, нічога й не каштуе.

У 1978 годзе літоўскі паэт-эмігрант Томас Венцлава ў лісьце да польскага паэта-эмігранта Чэслава Мілаша паміж іншым пісаў: «Не магу ўявіць сабе члена Акадэміі навук Літоўскай ССР, які падтрымаў бы Сахарава, хоць напэўна існуюць такія, што захапляюцца ім у глыбіні душы. Тут, дарэчы, ёсьць зручны спосаб самаапраўданьня: Сахараў — гэта ўнутраная справа расейцаў, а Літва — акупаваная краіна, у яе свае праблемы, трэба ўсё прысьвяціць справе выратаваньня літоўскай мовы й літоўскай культуры, а гэта азначае сядзець і ня рыпацца. Адно невядома: ці будзе культура, выратаваная такім чынам, каштаваць хоць бы грош».

Сапраўды, чаго каштуе беларуская культура, мова й незалежнасьць, выратаваныя нашымі акадэмікамі й пісьменьнікамі за савецкім часам? Мы бязь цяжкасьцяў вызначаем кошты «нашаніўства» — адкрытая вайна з чарнасотнікамі, жабрацтва, сухотнікі, раньнія сьмерці... Гэты цёмны бок быў коштам сьветлага — нацыянальнае мары. Гэтак і кошты антычнасьці, хрысьціянства — за ўсё стакроць пераплочана.

У нашай сытуацыі, пра якую піша Венцлава, пра кошты казаць стала «нясьціпла» й «непрынята». Маштабнасьць культурных зьяваў вызначалі партыйныя ідэолягі. Урэшце сам крытэрый кошту культуры адмёр. І цяпер у нас маса творцаў і зьяваў, названых выдатнымі, але мы адчуваем эмпірычнасьць гэтых ацэнак. Яны не апраўданыя. А што будзе яшчэ праз пакаленьне? Хто паверыць, што гэты паэт — народны, а гэты раман — выдатны?

Прэстыж нашай культуры й мовы або сапраўды нічым не аплочаны й дзьмуты, або аплочаны, але нехта сарамліва замоўчвае кошты. Па-першае, ад «нацыянальнай сарамяжлівасьці», па-другое, ад небясьпекі пераацэнкі ўсіх каштоўнасьцяў.

Між тым, трэба прызнаць, што і ў справе пратэстаў, дысыдэнцтва, выгнаньня й г.д. Беларусь нічым не саступае іншым постсавецкім краінам. Наша ўнікальнасьць ня ў гэтым. Яна ў тым, што, выйшаўшы з камунізму й. маючы скрайнюю патрэбу ў прэстыжы для мовы й культуры, мы працягваем хаваць кошты. Іван Іванавіч збудаваў сабе добры дом. За колькі, Іван Іванавіч? Ды што вы хлопцы! Хіба ў гэтым справа? А вось жа ў гэтым таксама.

Адпор савецызму ў Беларусі не перапыняўся ніколі. Пасьляваенная партызанка, акты супраціву ў пісьменьніцкім асяродзьдзі, акадэмічныя групы, унівэрсытэцкія зборы подпісаў, высылкі ў глыбінку, усялякія падпольныя гутаркі «Аб усім, што баліць», змаганьне за помнікі, пасьля... У 1980-х гэты працэс набывае ўжо няспынны характар. Праўда, у канцы кар'еры Брэжнева і сам рэжым дазваляў большае. Але ж зь нечага яно ўзялося? Крыху паднялі на шчыт Кукабаку. Але побач зь ім — мноства сучасьнікаў, у якіх у кішэнях — рахункі з коштамі нашай сёньняшняй культуры й мовы. Толькі «нацыянальная сьціпласьць» не дазваляе выстаўляць іх.

...

Калі беларуская інтэлігенцыя «пайшла ў палітыку», яна трапіла ў дзіўную сытуацыю. Беларуская палітыка самым абсурдным чынам стала неблагім сродкам даходаў. Памятаеце, як Дзікаабраз пайшоў у Зону, думаючы, што выратуе брата, а яго грашыма заваліла. І тады Дзікаабраз павесіўся... Зь іншага боку месцы мабілізаваных у палітыку ў ложах інтэлігенцыі, г.зн. над палітыкай, пустуюць. Сёньняшні беларускі надпарлямэнт пусты.

...

Нішто лепш за Чачэнію не засьведчыла — маралі ў палітыцы не бывае. Наша інтэлігенцыя думала наадварот, калі хацела зрабіць сваю «сьпеўную рэвалюцыю». Але зрабіць не пасьпела, час такіх рэвалюцыяў прайшоў, інтэлігенты сталі проста дэпутатамі, а іх маральная зборшага аргумэнтацыя страчвае сілу. Чаму? Бо, аказалася, на сваім месцы няма інтэлігенцыі, якая й надае сілу такой аргумэнтацыі. Пацягнулі коўдру на галаву — раскрыліся ногі.

За тры-чатыры гады ў Беларусі зь лекараў і сьлесараў вырасла нямала прафэсійных палітычных функцыянэраў. І нямала прафэсійнай інтэлігенцыі да гэткага ж стану дэградавала. Бо новай інтэлігенцыі за тры-чатыры гады не нарасло й нарасьці не магло.

Паводле пакліканьня інтэлігенцыі дадзены талент, прафэсіяналізм і пачуцьцё вечнасьці. Яна выпрацоўвае гэтую энэргію й перадае ва ўсе сфэры грамадзтва. Але сёньня наш Алімп разбураны. Ужо даўно няма чаго паставіць у працяг «Рэха даўняга часу» — найлепшае кніжкі пра Менск. І разбураецца, прафануецца сам Менск. Усё больш зацята й бяздумна. Ніхто не вызначае каштоўнасьці й не змагаецца за іх так, як раней. Усе жывуць адным днём, адным глытком, адным укусам...

Чаму не нарастае новая інтэлігенцыя? Дакладней, чаму такія хаатычныя й беспэрспэктыўныя яе парасткі? Можа, таму, што тыя, хто сыйшоў у палітыку, забралі з сабой *усю* «коўдру» нацыянальнай культуры, маралі, традыцый, ранейшай сыстэмы каштоўнасьцяў, — прафанавалі вечнае ў часовае? Напэўна, яны яшчэ будуць вяртацца, але ці вернуцца, ці гэта ўвогуле магчыма?

...

Наконт «хаатычных парасткаў»... Заўважная ўнутрыкультурная зьява: на зьмену колішняй імітацыі паэзіі прыйшла іншая — імітацыя інтэлектуалізму. Гавораць пра элітарнасьць... Але вось толькі адзін газэтны загаловак: «Клопат з экзыстэнцыі». Што б гэта значыла? І на якой мове? Калькаваныя пераклады філязофскіх эсэ нясуць з сабою прафанацыю мовы, у іх губляюцца ня тое што тонкасьці думкі, але й рэшткі сэнсу. «Экзыстэнцыю адчувае той, хто ёю паглынены, хто нечага выперся, хто ўжо ня можа інакш. Бяз сумлеву, чэскай літаратуры заўсёды было знаёмае гэтае вычуцьцё. Часамі, праўда, яно адмянялася ў комплекс, але ўчастых і ў найважнейшы стымул самарэалізацыі». Хваля перакладаў і сапраўднага прадумваньня, якая мусіла б ствараць канстанты новай культуры, застаецца імітатарскай.

Між тым, канстанты мусілі б утыркацца ў гэтую багну часу, як пáлі, на якіх магла б нарошчвацца новая традыцыя. Ці можна што-небудзь сказаць пра характэрныя асаблівасьці сучаснай беларускай літаратуры як працэсу? Нічога. Таму што няма канстантных твораў. Ёсьць нейкія дубцы, якія ўтыркаюцца ў багну і зараз жа зьнікаюць у ёй.

Новыя культурныя ініцыятывы не становяцца апорнымі пáлямі, а як бы ўнікаюць гэтае ролі, шукаючы сябе па-за відмом колішняе, брэжнеўскае стабільнасьці, колішняга афіцыёзу. Але сёньня афіцыёзу няма. Гэта толькі відмо. І выходзіць, што ўсё жывое ў нас, што ўзьнікла ў апазыцыі, наўзбоч афіцыёзу, там і разьвіваецца, як маргіналіі. А што ў цэнтры? Пуста.

Можа быць, адзіны выратавальны канстанты востраў сярод багны — гэта энцыкляпэдызм. Тут вобраз гаці з тоўстых тамоў уяўляецца вельмі выразна. Але энцыкляпэдыі ня могуць замяніць усю культуру. Гаць будуецца для таго, каб па ёй хадзілі, для тых, хто па ёй пройдзе, а не сама для сябе. У гэтай, ці ня самай здаровай сёньня, культурнай зьявы ёсьць два шляхі: або ператварыцца ў прафанацыю, або лякалізавацца ў адэкватнай жанравай нішы, куды яе мусяць пасунуць іншыя канстанты культуры. З другім варыянтам ясна. А першы — дзясяткі тамоў штампуюцца ў сытуацыі, калі нічога ня вырашана з правапісам, з раскладкай вечнага й часовага, праўдзівага й хлусьлівага. Нядаўні ЭЛІМБел ужо можна цалкам перавыдаваць, але ці можна, калі новая Энцыкляпэдыя Гісторыі з многімі сваімі «газэтнымі» артыкуламі ўжо саступае ЭЛіМБелу мэтадалягічна...

...

Падвядзем рысу.

1. Дысыдэнцтва беларускай інтэлігенцыі за савецкім часам мусіць стаць фактарам сучаснай культуры ў асобах і ўчынках. Бо менавіта яно будзе базысам новага творчага працэсу, а ня брэжнеўскі афіцыёз.

2. Інтэлігенцыя ёсьць, калі яна *гаворыць пра жыцьцё.* Шанец рэабілітацыі народных.

3. Не палітыка вызначае культуру (мову, творчасьць, мараль), а наадварот.

# выбрукаваная добрымі намерамі?

Падобнае стаўленьне да зьберажэньня спадчыны абумоўлена адсутнасьцю досьведу па гэтай праблематыцы на ўзроўні грамадзкай думкі. Нацыянальная спадчына часта успрымаецца як нявартая ўвагі старызна, ад стану захаванасьці якой «кілбасы ў крамах не паболее». Затое кожны адзначыць, што рэстаўрацыйныя работы патрабуюць адпаведных выдаткаў. Але ж нямногія ўсьведамляюць, што выдаткі гэтыя ў цывілізаваным грамадзтве заўсёды акупляюцца.

Можна прыводзіць факты, калі нават некаторыя спэцыялісты-рэстаўратары маюць дастаткова адноснае ўяўленьне пра міжнародныя і нават айчынныя заканадаўчыя й мэтадычныя дакумэнты. Хаця наўрад ці хто з працаўнікоў нівы зьберажэньня спадчыны ня памятае, што ў адпаведнасьці з Зборнікам рэстаўрацыйных нормаў і правілаў (102-84) паняцьце «рамонтна-рэстаўрацыйныя работы» ўключае ў сябе цэлы шэраг пасьлядоўных этапаў дзейнасьці: ад комплексных навуковых дасьледаваньняў да рэалізацыі праектных распрацовак у натуры. Гэтыя этапы патрабуюць адпаведнай удакумэнтаванасьці. Ці можа аўтар «Адкрытага ліста» пакласьці на стол навукова-дасьледчую дакумэнтацыю, распрацаваную ў адпаведнасьці з РНіПам, на падставе якой абгрунтоўваюцца ўсе раскрыцьці ды панаўленьні ў Станіславаўскім касьцёле, прымяненне канкрэтных фарбаў, мэтодыкі прапіскі імі жывапісных сюжэтаў? Пытаньне гэта датычыцца ня толькі «змытага» жывапісу, але й прапановы па пазалоце алтара, зьяўленьня ў яго верхняй частцы барэльефнай выявы.

Праблема наяўнасьці навукова-дасьледчай і праектнай дакумэнтацыі ў адносінах да гісторыка-культурных каштоўнасьцяў асабліва актуальнай стала ў апошні час, калі ўзьнікла дастатковая колькасьць суб'ектаў, надзеленых ДзІнАС ліцэнзіяй на права выкананьня рэстаўрацыйных работ. Яшчэ нядаўна пры йснаваньні адзінай у дзяржаве спэцыялізаванай установы — рэстаўрацыйных майстэрняў і пазьнейшых вытворных ад іх структураў — існаваў абавязковы парадак абмеркаваньня поўнага складу праектнай дакумэнтацыі радай спэцыялістаў. Вызначаная колькасьць асобнікаў праекту здавалася на захаваньне ў спэцыялізаваны архіў. Такая завядзёнка гарантавала правапераемнасьць рэстаўрацыйнага працэсу, дазваляла назапашваць навукова-мэтадычныя й дакумэнтальныя сьведчаньні па гістарычных аб'ектах.

Матэрыялы экспазыцыі «Барока на Беларусі: Выстава паводле рэстаўрацыі Катэдральнага касьцёла Магілёва ў 1992-1994 гадох» у галерэі Пушкіна ў Віцебску, нават калі яны дзесьці й захаваюцца, такімі зьяўляцца ня могуць. Выстава ёсьць зьява мастацкая й ствараецца не на падставе навукова абгрунтаваных мэтодык. Не зьяўляюцца нарматыўнымі дакумэнтамі з прычыны законнасьці аўтарскага права й матэрыялы навуковых або навукова-практычных канфэрэнцыяў ці сэмінараў. Яны толькі могуць стаць падставай для ўнармаваньня дзейнасьці ў пэўнай сфэры. А могуць і ня стаць.

Варта сказаць, што прадстаўленыя БКГ матэрыялы па фіксацыі ў Станіславаўскім касьцёле не адпавядалі навукова-мэтадычным ды й дакумэнтальным патрабаваньням, што было адназначна падкрэсьлена сябрамі Навукова-мэтадычнай рады. Адсутнасьць такой дакумэнтацыі, як і распрацоўка яе не ў адпаведнасьці зь дзейнымі ў сфэры рэстаўрацыі нормамі й правіламі зьяўляецца шкодай ня меншай, чым фізічныя страты каштоўнасьці ці хаця б яе частак.

З гаворкі аб «змытых» у Магілёўскай катэдры фрэсках вынікае й іншая, але зьвязаная з папярэднімі высновамі, акалічнасьць: у беларускай дзяржаве неабходнае ўсталяваньне дзеяздольнай сыстэмы аховы спадчыны, забясьпечанай кваліфікаванымі кадрамі спэцыялістаў. Відавочна, што сіламі цэнтральнага апарату ДзІнАС надзвычай складана выканаць немалы комплекс мерапрыемстваў, прадугледжаны заканадаўствам аб ахове спадчыны. На сёньняшні дзень адзіны прафэсійны дзяржінспэктар ДзІнАС, які рэгулярна кантактуе з цэнтральным апаратам, працуе пакуль толькі ў Менску.

Наладжваньне дзейнасьці сыстэмы аховы спадчыны, асновай якой маюць стаць структуры ДзІнАС у рэгіёнах краіны, наўрад ці дазволіць пакінуць па-за абмеркаваньнем на Навукова-мэтадычнай радзе канцэптуальныя падыходы да выкананьня рэстаўрацыйных работ каштоўнасьцяў кшталту Станіславаўскага касьцёла. Адначасова створыцца магчымасьць наладзіць кантроль за работай суб'ектаў, надзеленых ліцэнзіяй. Сёньня нават цяжка сказаць, колькі й каму такіх ліцэнзій выдадзена. Дарэчы, сумлеўнае атрыманьне падобнага дазвальняльнага дакумэнта БКГ, у складзе якой няма атэставаных рэстаўратараў жывапісу й адпаведнай навукова-дасьледчай базы для выкананьня рэстаўрацыйных работ. Дый разуменьне грамадоўцамі прававога статусу ўладальніка ліцэнзіі не зусім стасуецца з законам. Наўрад ці мае рацыю старшыня Грамады, калі піша ў сваім «Адкрытым лісьце», што як кіраўнік арганізацыі нясе «адказнасьць за стан рэстаўрацыі Магілёўскага Катэдральнага Касьцёла». Гаворка йдзе, хіба, пра адказнасьць маральную. Але юрыдычна «пэрсанальную адказнасьць за зьберажэньне адметных вартасьцяў і ўнікальных фрагмэнтаў гісторыка-культурных каштоўнасьцяў, а таксама за навуковую й мэтадычную абгрунтаванасьць праектных рашэньняў, якія прымаюцца й рэалізуюцца» у адпаведнасьці з арт. *57* Закону аб ахове спадчыны, нясе навуковы кіраўнік. Дарэчы, згодна з арт. *52* таго ж закону асобы, якія дапускаюцца да работ на каштоўнасьцях, «павінны мець адпаведную кваліфікацыю, наяўнасьць якой пацьвярджаецца сэртыфікатам». Арт. *53* прадпісвае выдачу сэртыфікату ДзІнАС пасьля адпаведнага заключэньня Навукова-мэтадычнай рады. Падобная працэдура ў адносінах да Мастацкай майстэрні БКГ, сьведчу гэта як сябра НМР пры ДзІнАС, выканана не была. Увогуле, зыходзячы з характару арганізацыі работ у касьцёле Станіслава, ствараецца ўражаньне аб сумяшчэньні ў асобе Грамады функцый падрадчыка й заказчыка, што пры пэўным зьбегу абставінаў карысьці прыносіць мала, калі і ўвогуле не наносіць шкоду.

Не ратуе справы й «шырокая сьпіна» такога прызнанага ў рэстаўрацыі прафэсіянала як Віктар Лукашэвіч. Ён прызначаны навуковым кіраўніком на работы па жывапісе ў інтэр'еры касьцёла зусім нядаўна. Дый адбылося гэта пасьля завяршэньня работ у асноўным аб'ёме касьцёла, дзе якраз і допушчаныя парушэньні. Яшчэ пазьней, літаральна паўтары месяцы таму назад, правы й абавязкі навуковага кіраўніка ў цэлым па Магілёўскай катэдры ўзяў на сябе Ўладзімер Папруга, у рэстаўрацыйнай сфэры чалавек невядомы, хаця й ня выключана, што здатны з павагаю паставіцца да патрабаваньняў рэстаўрацыйных нарматыўна-мэтадычных дакумэнтаў.

Дыскусія, якая распачалася з канстатацыі ў прадмове да юбілейнай публікацыі «Вэнэцыянскае хартыі», выходзіць далёка за ўзаемадачыненьні двух неардынарных асобаў: архітэктара-рэстаўратара, заўзятара маральнага аспэкту ў сфэры зьберажэньня спадчыны Вадзіма Глінька, і мастака, адданага ідэі ўмацаваньня нацыянальных пачаткаў у хрысьціянскай веры рымскага абраду Фэлікса Янушкевіча. Зьмест палемікі — прафэсійная этыка. Сутнасьць — усталяваньне прававых стасункаў на ніве рэстаўрацыі. Зрэшты, ці магчыма ўсё гэта ў грамадзтве, якое толькі наважылася будаваць прававую дзяржаву? Без увагі на дапушчэньне палемічнага характару высновы заўважым, што сёньня дастаткова пэўна можна казаць пра ўсталяваньне прававых стасункаў у асобна ўзятай сфэры зьберажэньня спадчыны. Падставай таму зьяўляецца заканадаўчая айчынная й міжнародная база, існаваньне, урэшце, людзей з галовамі, рукамі, нагамі, з усім тым, што патрэбна для руплівай удумлівай працы. Застаецца збудаваць у самой сфэры дастаткова лягічную сыстэму ўзаемадзеяньняў. Што ж перашкаджае?

# Віктар Шніп

### ВЫКРАДАНЬНЕ АГНЮ

Ты захацеў стаць Прамэтэем,
Агонь ты выкраў у багоў.
Цяпер у травах чорных зьмеем
Паўзеш, апалены, дамоў,
І чуеш сьмех і крык вар'ятаў.
І цемра, цемра, як праклён,
І адзінота сьпіць у хатах,
І д'яблы выюць ля вакон.
Багі маўчаць і не злуюцца,
У небе зор нябачна зноў.
Арлы за крушню ў цемры б'юцца,
Нібы за чарапы цароў.
Паўзеш і ланцугоў ня бачыш
Ні на руках, ні на нагах.
Твой шлях ніхто тут не аплача,
Як чарвяка — твой сьлізкі шлях.
А брат твой да гары прыкуты
Стаіць у цемрыве начэй.
І ў акіян цячэ атрута
Зь яго апаленых вачэй.



### ВЫКРАДАНЬНЕ ЭЎРОПЫ

Ізноў выкрадаюць Эўропу
І Край мой сплывае ў нябыт.
І сьмешна ў чарзе асталопу
Каля азіяцкіх карыт.

Зь лістоты растуць мінарэты,
Ксяндзы выглядаюць з кустоў.
У пляцы плывуць прайдзісьветы
Далей ад вар'яцкіх кастроў.

Сьмяецца і плача Эўропа,
І, мора капыцячы, бык
Палохае п'яных халопаў,
Што любяць ня мову — язык.

І сьняцца мне пляцы Парыжа,
Эўропы расхвалены быт.
Бык соль беларускую ліжа
Каля азіяцкіх карыт.

Эўропа... Эўропа... Эўропа...
Апошні прапіты рубель.
І топіцца ў моры халопаў
Ратунку сьляпы карабель.

### ВЫКРАДАНЬНЕ ЗАЛАТОГА РУНА

Вар'яцка сьпяваюць сырэны,
І нам не вярнуцца назад
У белыя родныя сьцены
Да вабных, як віны, дзяўчат.
Але мы плывём, і нам неба
Гаворыць, што шанц у нас ёсьць.
Руно! Нам ня золата трэба,
Ня трэба слановая косьць.
Злуюцца багі, і наш парус,
Як ліст, калашмацяць вятры.
Малітвай анёлячы мару
На палубе, як на кастры,
Стаім прывязаныя. Мора
Магілаю хоча нам стаць.
Шляхамі згараючых зорак
Галодныя цмокі ляцяць.
Ды ўсё ж мы руно залатое
Здабудзем.
І хутка прап'ём.
І мора, як дрэва сухое,
Ахопіцца райскім агнём.

### ВЫКРАДАНЬНЕ КАХАНАЙ

Збудую паветраны замак,
Анёлы паселяцца ў ім.
Ты будзеш у замку таксама,
Ты будзеш у сэрцы маім.

На лютнях зайграюць анёлы,
І ўспыхнуцца ружы наўкол.
І раю блакітныя пчолы
Нам сьвечкі паставяць на стол.

І будзе наш замак праз ружы
У небе, як мроіва, плыць.
Нам хмараў вандроўныя сьцюжы
З табой, як санэты, любіць.

Паветраны замак збудую
Над садам — кляштарам тваім.
Цябе я ўкраду, пацалую,
І ў неба, як сон, паляцім.

* * *

Вы зноў намалюеце ружы,
Вы зноў намалюеце сьвет,
Дзе ружаў чырвоныя сьцюжы
Гучаць, як Шэкспіраў санэт.

Віно, як сьвітаньне ў графіне,
Ваш сум не праганіць ад воч.
І кава спакусная стыне
У кубачку чорным, як ноч.

За вокнамі зоры і сьцюжа,
І шлях з адзіноты, як сон.
І сьвечкі дрыготкая ружа
Баіцца за Вас ля вакон.

Вы зноў намалюеце лета
І сьцежку праз ружы — у Храм.
Бы ў клетцы, у словах санэта
Свае Вам пачуцьці аддам.

І зьнікне, як сон, адзінота,
І сум свой прагнаўшы ад воч,
Апаліце вусны спякотай,
Што ў кубачку чорным, як ноч.

# Жаніх панны Данусі

*Працяг са старонкі 1*

трохі прысела на ўсе чатыры колы, але гэта была моцная, імпартовая машына.

Бяроза ля варотцаў Данусінага двара зашумела-загаласіла пажаўцелай лістотаю: «Ня езьдзі, Дануся, затрымайся!» Ды магчымасьць праехацца ў аўтамабілі пераважала нават меркаваньні пра прыстойныя паводзіны паненкі.

(Ах, як рэдка прыслухоўваемся мы да прарочага голасу прыроды і да якіх сумных наступстваў прыводзіць наша непапраўная няўважлівасьць!)

Дануся загадала жаніху апусьціць скураны верх машыны й ганарова ўзьняла над сабой карункавы парасон. Вечаровае сонца здагадалася прасунуць між хмарамі свой нясьмелы прамень, каб высьвеціць выбітнае відовішча: па вуліцы Балотнай гораду М, звычайнай мястэчковай (гэта значыць, месцамі прыдатнай для праезду) вуліцы, на якой гарадзкія ўлады так і не наважыліся паставіць ліхтары, ехаў «Лёрэн-Дзітрых» колеру губэрнскага шчасьця. Данусі здавалася, быццам за яе сьпінаю на буфэрах аўто, як на запятках карэты, стаяць лёкаі ў напудраных парыках.

— А ня страшна табе ехаць са мною, Дануся? — зусім недарэчна глухім голасам запытаў Габрусь нявесту. Але патанулі словы яго ў магутным крыку салісткі хору Апякунства аматараў цьвярозасьці.

— Габрусік! Спыніся тут, перад Зосьчыным домам! Зося! Зося!

Аўтамабіль спалохана прытармазіў. За плотам стаяла рудая Зося, былая аднакласьніца Данусі, і паядала вачыма трыумф сяброўкі.

— Зося паедзе з намі! — загадала нявеста Габрусю. Той трохі знэрвавана пачаў супраціўляцца нечаканай акалічнасьці, зноў спасылаючыся на незямное каханьне і іншую рамантычную блытаніну. Зося ўжо сядзела побач з Данусяю, прыгожа распраўляючы складкі сваёй неабдымнайараднай спадніцы з фальбонамі.

Аўто рушыла наперад. Пекныя паненкі сакаталі і ўвесьчасна прасілі апатычнага Габруся націскаць на гумавую грушу гукавога сыгналу. Але ўпарты Габрусь не паехаў на людных вуліцах, дзе жылі знаёмыя, а кіраваў у бок Кальварыйскіх могілак паўз хутар Нядзьвежына, дзе сапраўды было глуха й цёмна, як у мядзьвежай барлозе.

У вечаровым паўзмроку паказалася белая брама могілак. Па версе брамы, над выявамі жудасных эмблемаў сьмерці, красаваўся ўрачысты надпіс па-польску з артаграфічнай памылкай у слове «spokój». Нягледзячы на пратэсты паненак, Габрусь пакіраваў туды, на брукаваную дарожку між магілаў. Дарога вяла да суровага псэўдагатычнага будынку касьцёла. Змрочныя старыя ліпы сашчапілі над дарогай свае кашчавыя чорныя шаты, быццам мёртвыя пальцы. Злавесна хрыпелі крумкачы. Над уваходам у зачынены касьцёл цьмяна сьвяцілася лампадка — далёкае-далёкае акенца ў той сьвет, куды нам, грэшным, іську-не дайсьці...

Запыніў Габрусь аўтамабіль, павярнуўся да пекных паненак. Пагрозна бліснулі акуляры на выцягнутым белым-белым Габрусёвым твары.

— І чаго ты прыпёр нас сюды? — гучна абурылася Дануся.

— Знайшлі час, пан Габрусь! Касьцёл жа зачынены! — падтрымлівала сяброўку рудая панна Зося, у якой ад злосьці ледзь не абсыпаліся рабацінкі.

— Мы прыехалі на месца! — нязвыкла цьвёрда і ўрачыста сказаў Габрусь і ўскінуў доўгія рукі ў зьнямелае неба, як ускідвае крылы чорны жораў, зьбіраючыся ўзьляцець ад бязьлітаснай паляўнічай стрэльбы. — Пазнай жа, нявеста мая верная Данута, што...

— Ой, тут жа новую прыбіральню нядаўна зладзілі! — здагадалася панна Дануся. — Габрусік, бедны, у прыбіральню хоча, вось і заехаў сюды, — далікатным шэптам растлумачыла яна сяброўцы. — Ён такі інтэлігентны... Ён ня ходзіць за рог, як звычайны мужык... Ідзі, Габрусік! Мы пачакаем...

— Не, у такім разе, давай адразу мы сходзім! Пане Габрусь будзе такім добранькім... — какетліва зьвярнулася панна Зося да ўладальніка аўтамабілю.

— Спынецеся, няшчасныя! Вы не разумееце... — благаў Габрусь, сьмешна размахваючы худымі рукамі, але паненкі ўжо схаваліся ў маленькім зграбным будыначку ля могілкавай агароджы.

Нязграбная Габрусёва постаць сноўдалася ўзад-уперад ля «Лёрэн-Дзітрыха» так роспачна, што выпадкова пралятаючы над могілкамі анёл ураніў на небараку сваю бясцэнную сьлязу і палунаў далей, у высокае-высокае сіняе неба, запальваць першую сьвечку-зорку на славу Гасподнюю, дзеля заблукалых сьляпых нашых душаў... Але не адчуў дабрадзейства чыстае анёльскае сьлязы бедны Габрусь, а мо падумаў, грэшнай справаю, на гракоў...

# БЭСТСЭЛЕРЫ БЕЛАРУСІ 1994 г.

У канцы мінулага году рэдакцыя «НН» правяла апытаньне ў менскіх кнігарнях з мэтай вызначыць самыя папулярныя кнігі. Найбольш поўную інфармацыю мы атрымалі ад работнікаў «Кнігарні пісьменьніка» й «Цэнтральнай кнігарні», за што рэдакцыя ім асабліва ўдзячная. Нашыя падлікі вяліся паводле двух вымаганьняў:

— улічваліся толькі кнігі беларускіх выдавецтваў;

— улічвалася колькасьць *прададзеных* асобнікаў, а не іх наклад.

Агульнанацыянальная кнігагандлёвая статыстыка цяпер не вядзецца. Зусім дакладных лічбаў ня маем і мы. Але інфармацыя з канкрэтных кнігарняў дазваляе бачыць тэндэнцыі.

### МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА

1. Кастусь Тарасаў. Памяць пра легенды. («Полымя»)
2. Уладзімер Арлоў. Таямніцы полацкай гісторыі. («Мастацкая літаратура»)
3. Васіль Быкаў. Збор твораў. Том 5: Кар'ер; У тумане; Аблава («Мастацкая літаратура»)
4. Вітаўт Чаропка. Імя ў летапісе. («Полымя»)
5. Лагодны цмок. Ангельскія літаратурныя казкі. (Беларускі гуманітарны адукацыйна-культурны цэнтар)

### ЛІТАРАТУРА ФАКТУ

1. Энцыкляпэдыя гісторыі Беларусі. Том 1. (БелЭн)
2. Энцыкляпэдыя сельскага гаспадара. (БелЭн)
3. Расейска-беларускі слоўнік. (БелЭн)
4. Археалёгія й нумізматыка Беларусі. Энцыкляпэдыя. (БелЭн)
5. Сексология. Энциклопедический справочник. (БелЭн)
6. Нарысы гісторыі Беларусі. Частка 1. («Беларусь»)
7. Блакітная кніга Беларусі. Энцыкляпэдыя. (БелЭн)
8. М.Доўнар-Запольскі. Гісторыя Беларусі. (БелЭн)
9. Іканапіс Беларусі. («Беларусь»)
10. Мікола Ермаловіч. Старажытная Беларусь. Віленскі перыяд. («Бацькаўшчына»)

* * *

Беларуская літаратура сёньня настолькі далёкая ад *fiction*, што і ў разьдзеле мастацкіх кніг пераважае літаратура факту, а ня вобразу. У дакладным сэнсе мастацкіх бэстсэлераў няма, бо няма мастацкага працэсу. Кнігі Тарасава, Арлова, Чаропкі ацэньваць з пункту гледжаньня вобразу няма як, ня гэта ў іх галоўнае. Пераклады казак купляюцца разам з энцыкляпэдыямі і з тымі ж мэтамі. А пяты том Быкава набылі тыя, хто ўжо мае на паліцы чатырохтомнік ранейшага выданьня.

Але дзе ж мастацкая літаратура? Зборнік Славаміра Адамовіча «Зваротныя правакацыі», які рэцэнзэнт «НН» назваў лепшай паэтычнай кніжкай года, ня трапіў у наш сьпіс з-за колькаснай планкі — выданьні, якіх адна кнігарня прадала менш за некалькі соцень, сюды проста не маглі патрапіць. Магчыма, гэта памылковы крытэрый, а магчыма й не. На беларускую дакумэнтальную літаратуру сёньня працуюць і палітыкі, і гісторыкі, і журналісты. Гэта тое, што называюць нацыянальным адраджэньнем, і што на слыху ў кожнага. А вось на мастацкую літаратуру не працуе ніхто й нішто. Яна — на задворках пэрыёдыкі, крытыка пра яе не гаворыць, бо крытыкі няма, сустрэчы з чытачамі неэфэктыўныя...

Колішняя сыстэма забесьпячэньня прозы й паэзіі не працуе, а новая яшчэ ня створаная. Пашыраныя стэрэатыпы прынцыповай малатыражнасьці мастацкіх твораў і абмежаванасьці беларускамоўнага кола могуць быць прынятыя толькі пасьля таго, калі можна будзе сказаць,



што пра гэтую кніжку ведаюць усе, хто мог бы яе набыць і прачытаць. Практыка паказвае, што нават такі пэрыёдык як «НН» сёньня, праз чатыры гады пасьля свайго аднаўленьня, знаходзіць сабе новых чытачоў сярод тых, хто дагэтуль ніколі ня чуў пра газэту, або блытаў яе зь іншымі (з-за назвы). Нічога дзіўнага, што беларуская мастацкая кніжка або ўсім накладам ляжыць у невядомасьці або гэтак жа незаўважна прадаецца за адзін дзень. Яе рынак не вывучаецца й творыцца стыхійна. Прычым сёньня гэта тычыцца як згаданай самвыдавецкай кніжкі С.Адамовіча, так і афіцыйнай паэткі года Раісы Баравіковай. Усё, што могуць прапанаваць ім нашыя выдавецтвы — гэта малатыражная невядомасьць.

Крыт.

## КАНКРЭТНЫ ВЫБАР

Абсалютнае лідэрства ў Беларусі энцыкляпэдый (5 пазыцый зь 10) ставіць

# Смаленская парадыгма «Культурнага

Юрка Васілеўскі

**Д.И.Будаев. Историки Смоленска XVIII — начала XX вв. — Смаленск, 1993. С.127. Выданьне Міністэрства адукацыі РФ і Смалдзяржпэдінстытуту.**

**История Смоленщины. Ч.1. Учебное пособие для учащихся восьмых классов школ Смоленской области. — См., 1994. С.200. Калектыў аўтараў. Выданьне Камітэту па адукацыі адміністрацыі Смаленскай вобласці.**

**География Смоленщины. Учебное пособие для учащихся девятых классов школ Смоленской области. — См., 1994. С.200. Калектыў аўтараў. Выданьне Камітэту па адукацыі адміністрацыі Смаленскай вобласьці.**

Колісь К.Маркс выснаваў праблему кшталтаваньня духовага побыту вёскі ў культурнасьць гораду. На думку тэарэтыка, выключна сацыялізм здольны будзе разьвязаць гэтую праблему. Але насуперак рэвалюцыйным рэцэптам Маркса, у Эўропе галоўным чыньнікам вырашэньня згаданай праблемы стаўся эвалюцыйны поступ духовай і бытавой культуры. І толькі чырвоная Масква ў 20-х гадох нашага стагодзьдзя паставілася да Марксавай тэзы праграмна ды распачала яе зьдзяйсьняць у часе так званай НЭПаўскай дэмакратыі.

Тэза Маркса ў СССР неўзабаве была перафармуляваная («дыялектычна разьвітая») ў праблему некультурнасьці пэрыфэрыі адносна сталіцы, г.зн. безуважна да падзелу горад-вёска. Некаторыя НДІ Масквы й Петраграду пачалі комплексную распрацоўку праблемы так званых «культурных гнёздаў». У тагачасных БССР і УССР так званыя нацдэмы перакшталтавалі тэорыю «культурнага гнязда» ў праблему «нацыянальнай культурнасьці». Тут у адрозьненьне ад Расеі праблема гучала збольшага ў Марксавай трактоўцы, бо ўзровень агульнай культурнасьці губэрнскіх гарадоў Беларусі збольшага быў аднолькавы.

Для віцебскіх, гомельскіх ці магілёўскіх культурнікаў расейскай арыентацыі праблематыка «культурнага гнязда» ў 20-х гадох патыхала нежыцьцёвасьцю ў супастаўленьні з вобразам Масквы ці Піцера, прычым гэткая скіраванасьць на тыя ж «сьветлыя вобразы» выпрацавала спэцыфічнае грэблівае стаўленьне да любой мясцовай культурнай праблематыкі ці матываў у ёй. Носьбітамі і прапагандыстамі беларускай нацыянальнай культурнасьці ва ўсходнебеларускіх буйных гарадох сталі перш за ўсё дзеячы беларускага нацыянальнага руху. Апірышчам іхняга нацыянальнага матыву стала чыста навуковая засяроджанасьць на мясцовых праблемах краязнаўцаў, фальклярыстаў ды некаторых гаспадарнікаў, батанікаў, біёлягаў, настаўнікаў, журналістаў. Знайшліся й тэарэтыкі «беларускіх культурных гнёздаў», найбольш вядомы зь якіх Мікалай Касьпяровіч.

Завадатарамі «беларускай культурнасьці» пэрыфэрыі сталі ў 20-я гады губэрнскія й акруговыя краязнаўчыя гурткі, навуковыя таварыствы, ВНУ й беларускія пэдтэхнікумы, літаратурныя й тэатральныя суполкі, культурна-асьветныя ды іншыя арганізацыі. Пры дапамозе дзяржаўных органаў БССР культурна-нацыянальная пэрыфэрыя рэспублікі напрыканцы 20-х амаль выйшла на стадыю самаадняўленьня й была досыць разьвітая. Гэты працэс «нацыянальна-культурнага будаўніцтва» (паводле тагачаснай тэрміналёгіі) быў спынены зь пераходам у СССР ад адносна мяккіх да жорсткіх формаў ідэалягічнага кіраваньня. Ва ўмовах антыбеларускага генацыду 30-х гадоў культурныя праграмы ў СССР былі пазбаўленыя фармальна-нацыянальнай асновы й пасунутыя на вульгарнаклясавыя рэйкі. Праблема «культурнасьці пэрыферыі» яшчэ ставілася, аднак была жорстка прывязаная да заданьняў тэхналёгіі. У рамках падобных праграмаў, напрыклад, былі адчыненыя пэдагагічныя ды іншыя ВНУ ў Віцебску, Гомлі, Магілёве. Гэтыя ж гады запачаткавалі традыцыю няўвагі да мясцовай (рэгіянальнай) культурнай спадчыны й традыцый. Зусім невыпадкова ў 30-х гг. у БССР зусім заняпаў краязнаўчы рух.

Паваенная звышіндустрыялізацыя ў БССР абумовіла масавую люмпэнізацыю гарадзкога духовага жыцьця. Шэраг чыньнікаў аб'ектыўнага характару абумовіў праблематычнасьць плённага творчага жыцьця й дзейнасьці на пэрыфэрыі. Людзей высокіх творчых запатрабаваньняў (і гуманітарных, і тэхнічных) не маглі здаволіць культурныя магчымасьці нават вялікіх несталічных гарадоў. Пры агульным нізкім культурным стандарце савецкага грамадзтва неадпаведнасьць паміж сталічным і правінцыйным узроўнямі была велізарная. Сымптаматычна, што ў 70-80-х гг. гэткія буйныя полісы БССР як Горадня, Берасьце, Віцебск, Магілёў, Гомель перасталі быць вытворцамі агульнай і рэгіянальнай духовай культуры. Не адчувалася ў гэтых гарадох беларускай нацыянальнай патэнцыі. Трэба падкрэсьліць, што курс на русіфікацыю ў адрозьненьне ад Менску тут заўжды быў мацнейшы. У гэтым сэнсе пэрманэнтныя выезды нованароджанага культурнага элемэнту з буйных і малых гарадоў рэспублікі ў сталіцу — Менск, з навуковага пункту гледжаньня правільней было клясыфікаваць эміграцыяй, а не міграцыяй. Зазначым, што асобы без беларускага нацыянальнага сэнтымэнту падаваліся напрасткі ў Маскву ці Ленінград, бо й Менск па шэрагу культурных і бытавых парамэтраў у складзе СССР заставаўся пэрыфэрыяй.

Праблема пэрыфэрыі, такім чынам, у паваенную эпоху для БССР увабралася ў чыста расейскую мадэль. Апрача сталіцы ўсё ставалася задворкамі жыцьця, нават паўмільённыя й больш абласныя гарады БССР. Толькі развал камунізму рэанімаваў пытаньне культурнасьці правінцыі. З другой паловы 80-х гг. у Беларусі распачалося культурнае адраджэньне правінцыі, у тым ліку на аснове беларускай нацыянальнай ідэі. Праграма й практыка гэтага руху шмат у чым адпаведная задачам 20-х гг. Віцебская, Гомельская, Магілёўская, Гарадзенская ці іншая рэгіянальная беларушчына ў будучыні будуць станавіцца найважнейшымі элемэнтамі беларускай ідэі. Ва ўмовах Беларусі праблема духовай пэрыфэрыі будзе наўпрост залежаць ад рэгіянальнага поступу беларускай культуры. Пры захаваньні расейскай культурнай дамінацыі Беларусі не пазбавіцца традыцыйнай расейскай схемы культурна-эканамічнага процістаяньня паміж сталіцай і астатняй правінцыяй.

Тым часам, і ў самой Расеі адбываецца колісь замаруджаны працэс фармаваньня «культурных гнёздаў». Элемэнтам працэсу зьяўляюцца ўводзіны ў мясцовыя адукацыйныя сыстэмы комплексу краёвых ведаў. Смаленскі прыклад дэманструе Беларусі практыку гэтага працэсу. Апрача таго, выбраныя намі выданьні могуць быць цікавыя для Беларусі ў сэнсе адлюстроўваньня ідэалёгіі смаленскага «культурнага гнязда».

І. Манаграфія прафэсара пэдінстытуту Д.Будаева — першая спроба напісаньня спэцкурсу па смаленскай краёвай гістарыяграфіі. Прафэсар у храналягічным парадку разглядае жыцьцё й творчасьць гісторыкаў і краязнаўцаў гораду й краю ад Язэпа Шупінскага, Н.Мурзакевіча да П.Нікіціна, Ф.Еленева, С.Пісарава, В.Грачова, І.Арлоўскага, В.Варанoўскага, Д.Жбанкова ды іншых, а таксама дае ўласную крытычную ацэнку іхным важнейшым працам і публікацыям. Ужо гэткая сыстэматызацыя сама па сабе ўяўляе каштоўнасьць. Д.Будаеў, такім чынам, дае базавую схему ці лінію для наступнага паглыбленага вывучэньня агульнай смаленскай гістарыяграфіі ці якога-кольвек яе пункту.

Шкодзіць манаграфіі гістарычна-культурная просталінейнасьць. Правільней было бназваць яе курсам расейскай, а не агульнай гістарыяграфіі. Справа тут не ў сьвядомым адмежаваньні навукоўца ад выкананьня больш складанай задачы, якой зьяўляецца напісаньне агульнай гістарыяграфіі, бо шэраг сьцьвярджэньняў і тэзаў аўтара сьведчаць, што кіраваўся ён не ўласнымі навуковымі магчымасьцямі, але сьвядомай ідэйнай пазыцыяй. Гісторыя Смаленшчыны паводле прафэсара Д.Будаева гэта эпапэя барацьбы з польска-літоўскімі й французскімі нападамі на заходнія рубяжы Расеі. Выступаючы спадкаемцам расейскай царскай і савецкай гістарычнай школы, Д.Будаеў не заўважае беларускага чыньніка ў смаленскай гісторыі. Прымітывізм гэтай школы на старонках кнігі раз-пораз выяўляецца ў канфузьлівых фармулёўках альбо проста груба пярэчыць смаленскай гістарыяграфічнай спадчыне. Прыкладам, акцэнт у працы Я.Салаўёва «Сельскохозяйственная статистика Смоленской губернии» (Масква, 1855) на «рэзкія адрозьненьні» ў культуры, быце, народных вераваньнях беларускай (заходняй) і расейскай (усходняй) часткі Смаленшчыны, на думку Д.Будаева, не вытрымлівае крытыкі «с точки зрения современного знания» (с.56). Паказальна, што і ў іншых месцах манаграфіі факты фіксацыі з XIX ст. да 20-х гг. XX ст. практычна ўсімі расейскімі й замежнымі дасьледчыкамі падзелу Смаленшчыны на беларускую й расейскую часткі не даюць аўтару тэмы да роздуму й не абавязваюць яго да навуковых вытлумачэньняў.

Зазначаючы дапушчаныя ў працах І.Арлоўскага перабольшаньні ролі Смаленска ў расейскай гісторыі й культуры, прафэсар Д.Будаеў крытычна абрынуўся на твор С.Д.Шыраева «Этюды по истории архитектуры Смоленска и белорусской Смоленщины» (Смаленск, 1924), на думку якога: «Смоленск в древней Руси никогда не имел значения выдающегося национального художественного центра, подобно Новгороду, Ростову или

пытаньне: «Якое тут стагодзьдзе — XVIII ці XXI?»

Сама рацыяналістычная ідэя Энцыкляпэдыі прэтэндуе на ўсеагульнае разуменьне зьяў прыроднага, сацыяльнага й духовага жыцьця. Гэта вытокі Энцыкляпэдыі. А пераважна гуманітарная тэматыка новых беларускіх энцыкляпэдый апэлюе да праўзору менавіта XVIII ст. Вяршыняй сынкрэтызму (тут — усеагульнага тлумачэньня) мусіць стаць унівэрсальная «Беларуская Энцыкляпэдыя» ў XVIII тамох.

Але новая тэндэнцыя — апошнія беларускія энцыкляпэдыі імкнуцца даць болей уласна фактуры, чым нейкага тлумачэньня. Беларускі чытач папросту адчувае дэфіцыт магчымасьці апэратыўна атрымаць дакладную інфармацыю й таму купляе энцыкляпэдыі. Для беларускіх кніжак яны разыходзяцца зусім немалымі накладамі: «Энцыкляпэдыя гісторыі Беларусі» — 20.000 асобнікаў; «Археалёгія й нумізматыка Беларусі» — 15.000; «Блакітная кніга Беларусі» — 10.000. Асобнае месца займае «Энцыкляпэдыя сельскага гаспадара». Варта было яе





назваць больш дакладна — «Энцыкляпэдыя гаспадара». Гэтую кніжку накладам 40.000 асобнікаў куплялі ў меншай ступені нацыяналісты. Энцыкляпэдычны даведнік «Сексология» раскуплялі ня толькі ў Беларусі — вялікая частка яго накладу пайшла ў Расею. Найбольш як палітыка-сацыяльную зьяву можна ахарактарызаваць посьпех трохтамовага «Расейска-беларускага слоўніка» (агульны наклад з дадрукоўкамі — 175.000). «Нарысы гісторыі Беларусі» (40.000) ды «Гісторыя Беларусі» Мітрафана Доўнар-Запольскага (10.000) ня проста кніжкі па гісторыі, а дастаткова сыстэматызаваныя скразныя выклады гісторыі Беларусі па пэрыядах. Гэтая сыстэмнасьць лучыць іх з энцыкляпэдыямі і ў гэтым чыньнік іхняга посьпеху.

Кнігу Міколы Ермаловіча «Старажытная Беларусь: Віленскі пэрыяд» (25.000 асобнікаў), падобна, куплялі найперш з-за імя аўтара. Хаця ад кнігі «Старажытная Беларусь: Полацкі й Новагародзкі пэрыяды» дый ад працы «Па сьлядох аднаго міту» працяг адрозьніваецца па двух значных парамэтрах:

— сама гіпэрідэя апошняй кніжкі больш сьціплая, менш фантастычная (з гледзішча нечаканасьці) — гэта ўжо не лякалізацыя летапіснай Літвы й канцэптуальная інтэрпрэтацыя гензэысу Вялікага княства, а абгрунтаваньне тэзысу аб беларускай непадзельнасьці ВКЛ;

— але з памяншэньнем канцэптуальнай «фантастычнасьці» (а гэты парамэтар быў галоўным посьпехам Міколы Ермаловіча) суседнічае меншая навуковая вывераснасьць некаторых тэзаў (да прыкладу: Вільня — адзін з удзелаў Полацкага княства; вялікія князі літоўскія паходзяць з дынастыі полацкіх князёў). Можна было чакаць адваротнага — з памяншэньнем «фантастычнасьці» наступае большая фармальна-навуковая дакладнасьць.

З альбомам «Іканапіс Беларусі» быў абраны ўжо даўна апрабаваны ў Беларусі шлях. Дый у заходніх бібліятэчных калекцыях да 90-х гадоў зь беларускіх





выданьняў сустракаліся толькі альбом «Беларускае народнае адзеньне» Міхася Раманюка ды альбомы па мастацтву Надзеі Высоцкай.

Пакуль жа найбольш актуальнымі для беларусаў застаюцца галіновыя спэцыялізаваныя энцыкляпэдыі — па сацыялёгіі, матэматыцы, гісторыі... Яны маюць шанец стаць злучнікам паміж унівэрсальнай энцыкляпэдыяй XVIII ст. ды ўнівэрсальнай энцыкляпэдыяй XXI ст. Тут шмат што залежыць ад Выдавецтва й беларускага чытача. Унівэрсальная «Беларуская Энцыкляпэдыя» можа стаць зьявою XXI ст., калі рэальна й арганічна здолее аб'яднаць розныя дысцыпліны, выйдзе за стэрэатыпы беларускага кантэксту зь яго ўяўнаю гуманістыкаю. Тады гэта будзе праявай таго новага сынтэзу, які зьменіць нашу тэхнагенную цывілізацыю. А цяперашні чытач, з гледзішча раскупляльнасьці канкрэтных беларускіх кніжак, робіцца ўсё большым скептыкам. Гэты скептык спрабуе сам зрабіць свой выбар — ад сэксу да інтэрпрэтацыі гістарычных падзей.

**Алег Дзярновіч**

# гнязда»

Яраслаўлю». Пазыцыю С.Шыраева прафэсар Будаеў вытлумачыў так: «В условиях равнодушия многих представителей власти и значительной части населения к исторической памяти... иные специалисты относились к культурному наследию своего края чуть ли не с пренебрежением» (с.100). Пафасным выпадам аўтар абыходзіць праблему неадпаведнасьці беларускіх нацыянальных элемэнтаў у аўтахтоннай культуры Смаленшчыны (ці яе значнай часткі) культурнай традыцыі Расеі ў прыватнасьці ды адсоўваецца ад разгляду альтэрнатыўнай, нерасейскай (прыкладам беларускай, польскай) гістарыяграфіі Смаленшчыны наагул. Калі ўмоўна сфармуляваць дэвіз расейскай смаленскай гістарыяграфіі як «Шчыт Расеі», дык беларускаму дэвізу адпавядае пэўна выраз В.Ластоўскага «Надгробак забітай славы крывічоў». З гэтых дэвізаў няцяжка выснаваць і вытлумачыць розьнасьць пазыцый Д.Будаева ды, напрыклад, парушальніка расейскага гістарычнага міту С.Шыраева.

**Фактычна кожны вымушаны зыход з расейскай просталінейнасьці высьвятляе навуковую бездапаможнасьць аўтара і тыя ці іншыя хібы манаграфіі. Аднак, гэтыя пахібныя пункты мізарнеюць пры ацэнцы манаграфіі ў люстры расейскага гістарычнага міту. З гледзішча апошняга аўтар выканаў сваю задачу.**

II. Зусім нязначна пахіснуўся расейскі гістарычны міт у падрыхтаванай калектывам аўтараў першай часткі школьнага дапаможніка «История Смоленщины». Дапаможнік дастаткова поўна асьвятляе гісторыю Смаленшчыны ад першабытнага ладу да другой паловы XIX ст. уключна. У напісаным доктарам гісторыі Я.Шмітам, дарэчы, ведамым і ў Беларусі навукоўцам, першым разьдзеле дапаможніка этнічная гісторыя Смаленшчыны ў эпосе першабытнага ладу падаецца як паступовая славянізацыя балтаў у рамках саюзу крывіцкіх плямёнаў. Заслугай выданьня ёсьць вялікі разьдзел пра эпоху знаходжаньня Смаленшчыны ў складзе Вялікага Княства Літоўскага. Уся ранейшая смаленская літаратура абмяжоўвалася ў гэтай тэме невялікім наборам расейска-савецкіх штампаваных тэзаў пра барацьбу Смаленшчыны з польска-літоўскімі фэадаламі за ўзьяднаньне з Расеяй. І толькі цяпер гісторыя краю ў складзе ВКЛ пададзена смаленскім школьнікам не як суцэльнае змаганьне зь Літвой, але як існаваньне ў цывілізаванай дзяржаве. Характарызуецца дзяржаўны лад, сацыяльны й нацыянальны характар, культура, эканоміка ВКЛ. Кідаецца ў вочы этнанімічная эклектыка разьдзелу — жыхароў ВКЛ у адных месцах аўтар дзеліць на літоўцаў і рускіх, у іншых слова «рускія» бярэ ў двукосьсе, месцамі да тэрмінаў «усходнебеларускія землі» і «ўсходнебеларускія фэадалы» дапасоўваецца «рускае насельніцтва».

Аўтар разьдзелу Г.Ластоўскі падрабязна адзначыў вехі гісторыі, прычыны росквіту й заняпаду ВКЛ, але ўвесь час шкодзіць яму этнанімічная блытаніна. Прыкладам, гаворачы пра Грунвальдзкую бітву, смаленскія палкі згадваюцца ў ліку «беларускіх», хаця аб'яднанае войска ВКЛ і Рэчы Паспалітай завецца «польска-руска-літоўскім» (с.51,52). Дадатным прарывам для смаленскай гістарычнай літаратуры зьяўляецца аўтарская ацэнка зьнішчальных для Беларусі і Украіны імпэрскіх амбіцый расейскага цара Івана Жахлівага ў прыватнасьці й войнаў паміж ВКЛ і Расеяй увогуле. «Началась война, опустошившая и разорившая большую часть Белой Руси. Смоленские, витебские, мстиславские крестьяне, ограбленные и сожженные покидали родные места и бежали в южные степи. Приметой времени стали зарастающие лесом поля и опустевшие деревни», — пішацца пра войны Івана Жахлівага з ВКЛ (с.57). Аўтар надае крывавага колеру пэрманэнтным тагачасным «узьяднаньням» Смаленска з Масткоўскім княствам. Аднак, у войнах уласна беларусам адведзена роля адзіна пасыўных аб'ектаў чыненага іншымі гвалту. Пад войскі ВКЛ падводзіцца іншая этнічная база: «Русско-литовские полки под командованием гетмана К.Острожского...» (с.58).

Аўтары іншых разьдзелаў радзей зьбіваюцца з пазыцый расейскага міту. Невялічкае адступленьне дапускаецца ў разьдзеле «Далучэньне да Рэчы Паспалітай» (аўтары А.Кандрашэнкаў, Г.Ластоўскі), дзе станоўча характарызуецца сыстэма магдэбургіі ў Смаленску, спакойным тонам апавядаецца пра смаленскіх уніятаў і каталіцкае насельніцтва, прызнаецца вялікі культурна-адукацыйны эфэкт смаленскага езуіцкага калегіюму (с.70). «В целом, говоря о так называемом «польском периоде» истории нашего края необходимо при всех отрицательных сторонах отметить несомненное положительное влияние европейских традиций и культуры на повышение общего уровня культуры и образования на Смоленщине» (с.71).

Зусім па-за ўвагай аўтараў застаецца наяўнасьць беларускага кампанэнту ў мастацкіх традыцыях Смаленшчыны XVII-XVIII ст. Унікальны культурны пласт беларускай Смаленшчыны і тут незапатрабаваны й засуджаны на забыцьцё. Атрымліваецца, што адно «рускія песьні Смаленшчыны ўзгадавалі кампазытара Глінку» (с.129).

III. Дапаможнік «География Смоленщины» распачынаецца нарысам па гісторыі краю. Аўтары разьдзелу А.Катроўскі і В.Шкалікаў лічаць суб'ектамі гісторыі гэтаксама толькі Літву, Польшчу й Расею. Смаленшчына тут адназначна «руская зямля». І толькі ў пэўныя часы гісторыі заходняя частка Смаленшчыны, на думку аўтараў, «тяготела к Литве» (с.4). Вырашэньне так званай праблемы беларускасьці заходняй часткі Смаленшчыны XIX ст. у нарысе істотна розьніцца ад пазыцыі праф. Д.Будаева. «Смоленщина имела много общего с белорусско-литовскими губерниями. Поэтому большинство исследователей того времени относило Смоленскую губернию к белорусско-литовскому краю. Лишь Д.И.Менделеев в своем труде «К познанию России» включал Смоленщину в состав Подмосковной земли» (с.4).

Асноўны зьмест дапаможніка складаюць чатыры вялікія разьдзелы: Прырода, Насельніцтва, Гаспадарка, Гарады і ўнутрыабласныя раёны. Паважны дадатак на 56 старонках зьмяшчае схемы, мапы, малюнкі, інфармацыйныя табліцы. Аўтарскі калектыў, пераважна выкладчыкі Смаленскага дзяржаўнага пэдінстытуту выбралі вельмі рацыянальную структуру разьмяшчэньня матэрыялаў у дапаможніку. Кнігу можна прызнаць тэарэтычна самадастатковай. У артыкулах разьдзелаў разгляд у прасторы й часе вузкаспэцыяльных пытаньняў узалежнены ад магчымасьцяў і досьведу гаспадарчага выкарыстаньня нетраў, прыродных рэсурсаў, акцэнтуецца неабходнасьць уліку ў гаспадарцы тых ці іншых прыродных асаблівасьцяў канкрэтнае мясцовасьці. Дзякуючы падобнаму падыходу нават найбольшай удзельнай вагой разьдзелу «Клімат» (50 старонак) не перабіваецца геаграфа-эканамічны ўхіл дапаможніка, што безумоўна адпавядае практыцызму сучаснасьці.

У апошнім разьдзеле дапаможніка па артыкулах падаецца фізыка-геаграфічнае й эканоміка-геаграфічнае апісаньне функцыянальных раёнаў вобласьці, а менавіта Цэнтральнага (з горадам Смаленскам), Паўночна-Заходняга, Усходняга й Паўднёвага. Апроч навуковай апраўданасьці гэткі падзел робіць «Географию Смоленщины» гэтаксама дапаможнікам геаграфіі для школаў кожнага адміністрацыйнага раёну Смаленшчыны й ягонага наваколья.

Адзначым амаль поўную адсутнасьць у дапаможніку параўнаньняў Смаленшчыны й Беларусі. Разьдзел «Насельніцтва» карыстаецца паказчыкам колькасьці беларусаў на Смаленшчыне паводле перапісу 1989 г. — 1,9%, пры 94,1% расейцаў (с.66). Ня ўлічваецца й ня згадваецца зрусіфікаваны масыў аўтахтоннага беларускага насельніцтва Смаленшчыны. На малюнку №1 «Геаграфічнае становішча» заходнім суседам Смаленшчыны пазначаецца не Рэспубліка Беларусь, а Магілеўская й Віцебская вобласьці, гэтаксама, як, прыкладам, Калужская з усходу.

**Дапаможнік па геаграфіі цалкам адпавядае канцэпцыі смаленскага «культурнага гнязда».**

***

**Распрацоўка курсаў рэгіянальнай гісторыі й геаграфіі ў Беларусі распачалася. Прыкладам, над дапаможнікам па геаграфіі Магілёўшчыны працуе Г.Рыдзеўскі, ужо выдадзеныя дапаможнікі па гісторыі й геаграфіі некаторых раёнаў Віцебшчыны й Магілёўшчыны. Адбываецца станаўленьне рэгіянальных гуманітарных і краязнаўчых пэрыёдыкаў, беларускіх культурна-асьветных суполак ды рознага кшталту гісторыка-ахоўных клюбаў. У параўнаньні зь Беларусяй на Смаленшчыне аднак рэгіянальныя курсы ўжо ўведзеныя ў навучальныя праграмы школаў і ВНУ. Некалькі гадоў выдаецца гуманітарны часопіс «Край Смоленский», на старонках якога, між іншага, у некаторых публікацыях з аб'ектыўна навуковых пазыцый асьвятляліся рэгіянальныя беларускія тэмы.**

**Філязофія смаленскага культурнага космасу базуецца цяпер найболей на мітах і здабытках расейскай культуры й традыцый. Уплыў савецкіх ідэй тут ужо мізэрны. Культурнае жыцьцё рэгіёнаў Беларусі тым часам толькі пачынае выпрацоўваць нацыянальны фэрмэнт, які пры спрыяльных умовах можа замясьціць ці істотна пасунуць бюракратычны сурагат пэрыфэрыйнай культуры савецка-расейскага зьмесьціва.**

# МАСТАЦТВА НЕНАРОДЖАНЫХ

*Калі ня думаць сёньня пра тых, хто піша ўчора...*

*Гэтыя прыходзяць ніадкуль і ў нікуды. Маладая літаратура... Ей ня дадзена адлічваць сябе ад папярэднікаў, няма нават куды паставіць нагу. Папярэднікі намацвалі тут глебу, але не пакінулі вехаў, і балота зноў зацягнулася раскай...*

*Вучыцца ў клясыкаў? Але што выбіраць? У клясыкаў усё зьбітае ў адно й разам пакрытае лякам. Клясыка ня ведае праблемаў самавыяўленьня. Вучыцца ў фальклёру? Але ён сам сёньня ня ведае сябе; аганізуе, прыпудраны афіцыёзьнікамі ды нэафітамі. Вучыцца на Захадзе? Але Захад — terra incognita...*

*Іх ніхто не нараджаў, яны не пакліканыя ані папярэдняй літаратурай, ані нацыянальнай традыцыяй, ані нават шырокімі літаратурнымі стэрэатыпамі...*

*Іх няма, але яны не пустата... У слове «няма» — факт іхняе прысутнасьці.*

*Што будзе пасьля сацрэалізму? Постмадэрнізм? Гульня стыляў — тое, чым сёньня ўжо можна назваць усё... Постсацрэалізм?*

*Новая літаратура шукае сябе ў перакладзе рускамоўнай гарадзкой рэчаіснасьці на беларускую мову. Яе наканаваньне — прымітывізм, самавуцтва, «мэтодыка тыку». Старэйшыя пазіраюць на іх зь недаверам — ці ж выжывуць?*

*Можна было здагадвацца, што будзе канфлікт або што пераемнасьці ня будзе, але каб настолькі...*

*Распаўсюджаная беларуская зьява найноўшага часу — бацька не пакідае сыну нічога істотнага: ні дому, ні справы, ні капіталу, — і кожнае пакаленьне пачынае спачатку. Тое самае ў літаратуры. Але гэта — канстатацыя, а не апраўданьне.*

*Разам з тым, усё гэта аб'ядноўваецца ў пэўную агульнасьць. З школьных твораў гэта ўжо пачынае афармляцца ў літаратуру. Але гэта школа, у якой настаўнікі схаваліся ад вучняў.*

*Можна здагадвацца пра тое, што ім баліць, але яны толькі здагадваюцца пра гэта самі. Нічога не сьцьвярджаюць і нічога не адмаўляюць.*

*— Скажыце мне, што вы ёсьць.*

*— Мы ёсьць!!! — яны крычаць гэта так, быццам ад таго, ці іх пачуюць, і сапраўды залежыць, ёсьць яны ці не. Але іх не чуваць.*

*— Скажыце, што вы ёсьць. Дайце які-небудзь знак. Распаліце вогнішчы. Калі вы жывыя... Хоць бы паварушыце рукой...*

## Дзівосы

U.L. *(Наваполацак)*

**Усім, хто жыў, але ня быў народжаны, прысьвячаецца**

Дзівосы, як маленькія каменьчыкі ў рацэ. Ты нэрвуесься ці абыякавы. Падыходзіш да вады. Так, каб не замачыць свае новыя скураныя пантохлі чорна-бліскучага колеру. Нахіліўшыся, некалькі імгненьняў разважаеш, а потым сваёй дагледжанай клюшнёю зграбаеш каменьчыкі. Некаторыя разам з буйным рачным пяском выпадуць з далоні. Але нічога. Тых, што засталіся, дастаткова. Па чарзе, зь незвычайнай сур'ёзнасьцю і ўсёй сваёй сілай, ты шпурляеш іх у ваду. Ты ня дурань і цудоўна ведаеш, што вада не трымае каменьчыкі на паверхні, а каменьчыкі, пры ўсёй іх упартасьці, ня могуць сплываць да мора як восеньскае сьмецьце. І ўсё ж ты шпурляеш іх у ваду. Адмыслова шпурляеш... Каменьчыкі, якія ня ўмеюць плаваць, у перадсьмяротным адчаі спрабуюць вырвацца зь цяжкой сьвінцовай плыні.

«Адзін, два, тры, чатыры... Усе.» Ты ўважліва лічыш. Абцёршы далоні, ты адыходзіш прэч. Нэрвовасьць ператварылася ў прыемную стому, абыякавасьць — у лёгкую, кіславатую, як сталовае віно Аг-Суфрэ, узбуджанасьць. Дзівосы.

Жанчына кладзецца ў зялёныя парасткі жыта й пачынае стагнаць, імітуючы роды.

Увесну зямлю нельга крыўдзіць і біць — яна цяжарная. Басанож, басанож, басанож... Цела да цела.

Наш час мае адзін сымбаль — спарон. Мы хаваем вочы й ледзьве чутна шапочам, што гэта нядобра. Мы муруем асфальтам зямлю — нам ужо гідка хадзіць па ёй. Калгас. Гумавыя боты. Гумавыя пальчаткі. Гумавыя чэлесы. Гумавыя жанчыны...

Дзівосы ня могуць быць сьмешныя й крыўдныя. Дзівосы — напамін аб правілах, пра якія ўсе забыліся, але якія ад гэтага ня сталі менш *істотныя*.

Сьпінная гомельская фабрыка «Спартак» штукуе смачнае печыва. Зь сябрукамі за гарбатай мы ласьцімся ім. Наш улюбёны гатунак — «Водар». Ён самы танны. Гарбата, цукар, словы, печыва. Адно, два, тры, чатыры... На пятым усе заўважаюць, што на печывінках красуецца выява радзівілаўскага гербу. «Так? Так! Але як?!» Дзівосы заўсёды нараджаюць эмоцыі розуму. Перагарнуўшы печыва, засьведчыш, што беларускі водар струменіцца з трох афрыканскіх пальмаў. Дзівосы.

Прывідны Хрыстос мае дасканалы радавод.

Рэальныя ісляндцы (яны жывуць, разнастайна кахаюцца, пакуюць у бляшанкі тлусты селядзец) таксама маюць дасканалыя радаводы.

Беларусы радаводаў ня маюць.

Беларусы маюць зямлю, у якую ўрадлівым гумусам леглі сотні пакаленьняў. Беларус — араты і таму любіць сьвяткаваць з сваімі нябожчыкамі: «Дзяды, дзяды, ляціце да нас...»

Каменьчыкі, кінутыя ў ваду, ізноў вяртаюцца ў далоні. Дзівосы.

Ленін у Беларусі большы патрыёт, чым «Пане Каханку» ці Ефрасіньня Полацкая (ведама ж, размова йдзе пра здані). Бо ён адзіны, хто мужна стаіць у абарону «тарашкевіцы» й не хаваў сваіх поглядаў у змрочныя савецкія часы. Больш таго, ён выстаяў. На плошчы мройнай незалежнасьці — ягонае бронзавае цела. На барэльефе ля ног ананімны змагар цягне штандар барацьбы. На застылым палотнішчы зіхціць слова: «СЬЦЯГ...» Гэта больш пераканаўча, чым высновы камісіі па правапісу, выдурненьні магнацкага вырадка й незразумелая асабіста мне хрысьціянская цнота прыгожай дзяўчыны. У шэрагах змагароў за мяккі знак я апынаюся побач зь Леніным. Дзівосы. Але кожнаму сваё.

Калісьці на занятках па беларускай мове выкладчыца прапанавала перакласьці на расейскую слова «Дзецюкі» з закліку Каліноўскага. Ніхто ня здолеў.

Дзякуй Богу, што ёсьць *неперакладальнае*.

Дзівосы ня мусяць быць інтэрнацыянальнымі. І я таксама ня маю дачыненьня да нейкіх там «чудес» і цьмянай, невядомай «чуди», зь якой яны вырасьлі.

Дзівосы — квецень на курганах забытых багоў — Дзіваў. Беларуская «Дзіва» — жонка гэтых багоў. Дзівосы — іхнія дзеці.

Чамусьці мы больш любім чужых дзяцей і потым уздымаем брыво ў зьдзіўленьні, калі чуем, як чарнаскуры хлапчук зь дзіцячага дому пытаецца на чыстай беларускай мове: «А гэта наш сьцяг?»

Лунае над Менскам скрываўлены бінт.

Кроў ваяра? Кроў цесьляра? Нячыстая жаноцкая? Кроў ва ўсіх аднолькавая? І яшчэ адно пытаньне: як правільна пішацца: Еўропа ці Эўропа?

Жаданая да сутаргаў жанчына робіцца далёкай і чужой пасьля таго, як...

Напэўна мы асуджаныя, бо, адвярнуўшыся ад люстра, мы ня бачым ні сябе, ні сваіх сьлядоў. Як ня бачым іх і там. Дзівосы.

Скача па хвалях апошні каменьчык.

Адзін, два, тры, чатыры... Усе?



## Зь нязбытнага

Сяргей Конан *(Менск)*

Чэрвень. Студэнцкі пакой. Сябра рыхтуецца да экзамэну. Я таксама рыхтуюся, да ўцёкаў. Як? Калі? Яшчэ ня вырашыў. Але добра ведаю, адкуль і ад чаго. З Радзімы, ад сьмерці.

Я бачу сваю будучыню. Гэта як сон, які вельмі хутка стане яваю:

Восень, халодны вецер матляе па вуліцах апалае лісьце. Прыгожыя, ціхія дамы. Акуратнасьць, якая наводзіць жах. Нямеччына, маленькі гарадок пад Гановэрам...

Не, ня тое. Я не змагу быць так далёка. Пачну спачатку.

Восень, халодны вецер матляе па бруку сьмецьце. Вузкія вулкі, пустыя вочы дамоў. Пасярэдзіне дарогі ідзе чалавек. Яму маркотна і няўтульна. У рухах адчуваецца няўпэўненасьць і стома.

Куды ён крочыць?

Гэта я іду пасярод дарогі бяз мэты. Гэта нельга назваць шпацырам, хутчэй блуканьнем, працягам уцёкаў, цяпер ужо — ад сябе...

Памятаю свае спадзяваньні. Розумам я ведаў, што нічога не атрымаецца, але ў душы жыло спадзяваньне... Што выбары прэзыдэнта будуць на карысьць роднага краю. Нават, калі слухаў вынікі выбараў, не хацеў верыць: «Большасьць галасоў сабраў кандыдат у прэзыдэнты...»

Бог ты мой, як халодна й няўтульна. Колькі гэта можа працягвацца. Вострая Брама, вось і я каля цябе, як там у Багдановіча: Усё лятуць і лятуць тыя коні...

Але цяпер усё ня так. Зноў пакутуе «Пагоня» і ўсе, хто жыў ёю.

Я таксама. Мне цяжка. Я памятаю травеньскі нумар «Нашае Нівы». Ігар Бабкоў пісаў: «Пяты танкавы корпус расейскай арміі ўвайшоў у Менск». Яго фантазія засталася на паперы — да часу. Ніхто ня ведае будучыні. Усё атрымалася прасьцей і больш жудасна.

... кандыдат у прэзыдэнты...

Далей усё разгортвалася павольна й знаёма. Як заўсёды. Сьпярша зачынілі непатрэбныя новай уладзе газэты й перадачы па радыё. Цяпер кожны бачыў і чуў толькі ЯГО. Першага прэзыдэнта-дыктатара. Наша зямля ведала дыктатараў і зьлева і справа. Але яны былі чужыя, глядзелі на нас з-за нябачных межаў. А цяпер прыйшоў час уласнага, які тут, у Менску, побач...

Побач з намі. Дзякуй лёсу, ня побач са мной. Хоць я зусім недалёка ад межаў. Вільня зноў прыняла дзяцей сваіх, дзяцей духоўных. Мы зноў у сталіцы, чужой і роднай.

... побач з намі. Цяпер яго імя будзе зь Беларусяй. За што такі зьдзек. Радыяцыя, дыктатар...

Не, так страшна мне яшчэ не было. Адно за адным зьнікала тое, што, здавалася, стала самім жыцьцём. Герб, сьцяг, а потым сталі зьнікаць людзі. Будзённа й няўмольна. А разам зь імі — і апошнія спадзяваньні. Трэба ўцякаць. Пакуль чарга не дайшла да маленькіх людзей. Маленькіх паводле значнасьці. Ім будзе ня лепш.

Я стаў зьбірацца разам з сваім сябрам за мяжу. Згадваю, як казалі пра гэта жартам мінулай восеньню:

А ўжо праз год...

Які цяжкі гэты год. Дзе я сустрэну новы? Мусіць, прыйдзецца йсьці да знаёмых, але навошта я ім са сваімі клопатамі. Хоць куды я падзенуся, дакладней мы, праз гадзіну павінен сустрэцца зь сябрам. Разам зьбягалі. Як марудна цягнецца час. Пара йсьці да Катэдральнага сабору.

... а ўжо праз год мы выбраліся ў шлях. Даехалі на электрычцы да Маладэчна, далей на дызэлі да Ашмян. Далей пешшу. Ня мы адны такія, і да мяжы пад'яжджаць блізка небясьпечна. Ішлі гадзін шэсьць, спыняючыся для адпачынку, і амаль не размаўляючы. Аб чым? На сэрцы й так цяжка. З дапамогай мапы й компаса вызначылі (усе арыентыроўшчыкі), што хутка мяжа. Ішлі асьцярожна, хваляваньня амаль не было, толькі стома ад напружанасьці. Дайсьці, толькі б дайсьці.

Доўга яшчэ йшлі не спыняючыся. Баяліся паверыць, што ўжо ў Літве. Потым выбраліся да дарогі, убачылі надпіс па-літоўску. Апусьціліся на зямлю, сумна ўсьміхаючыся адзін аднаму.

Вільня. Разыйшліся на пару гадзін. Сябру трэба было зайсьці ў музэй, да калегі-гісторыка. А мне патрэбны час, каб вызначыцца, ці тэлефанаваць да знаёмых, ці не. Зьвёў нас лёс у мінулым годзе.

Дарэчы, пара йсьці да Катэдры...

Які халодны вечар. А вунь і знаёмая постаць. Ну што, Дзіма, пойдзем, патэлефануем.

— Алё, гэта Маша?

— Так...

## Галоўная ідэя

Руслан Равяка *(Баранавічы)*

Чалавек, седзячы за свім пашарпаным сталом, нешта пісаў. Сьпісаныя паперкі клаў стосам побач. Ноч паглынала ўсё навокал, і толькі ў гэтым пакоі сьвятло змагалася зь цемрай.

Нарэшце ён дапісаў апошні аркуш, адклаў яго асобна, зьняў акуляры, выключыў лямпу. Навобмацак ён выйшаў з пакоя, спаць.

Аркуш, які ляжаў асобна, быў пачаткам біяграфіі пад назвай «Я». Стос паперак побач — аб'ядноўваўся ў адно — раман.

Але працягнем аповед пра біяграфію. Кожны разумее, што калі адзіная літара стаіць над тэкстам першай, то яна зьяўляецца і кіраўніком усяго твору. Вялікая «Я» над усім аркушам паперы, а маленькія — у асобных радках і словах. Маленькія падпарадкоўваліся большым, а тыя ў сваю чаргу — вялікай, галоўнай літары.

Гэтак было заўсёды, і гэтак павінна было б быць.

Галосныя на гэтым лісьце, калі не належалі да правячай клясы, усё ж такі мелі нейкія правы й вольнасьці. Зычныя былі рабамі.

Але ў гэтую ноч здарылася непапраўнае. За нейкую дробязь шэраговая «Я» задушыла літару «Р». Здаецца, што з гэтага?

Але з-за гэтага выпадку ўзьнялося паўстаньне. Незадаволеныя тыраніяю, усе літары разам узьняліся й зьнішчылі узурпатараў.

Пасьля, зразумела, пачалі выбіраць свой, новы ўрад. Насельніцтва аркуша лічыла, што ўсе літары павінны быць аднолькава вольныя і таму ўрад узначалілі дзьве літары — «М» і «Ы» (Разам — МЫ). «М» была выбрана як былы зычны, кляс прыгнечаных, а «Ы» — як галосная, але самая зьбяднелая.

Здаецца, тады вельмі пакрыўдзілася «Й» і разам зь лічбамі, адыйшоўшы ў кут аркуша, утварыла форт, які абвясьціла незалежным. Гэткія літары, як «Ь», «'», «Дж» і «Дз», падтрымалі выбар «Й» і купкаю рушылі да незалежнага замку, каб далучыцца.

Каб не дапусьціць расколу, новы ўрад загадаў арыштаваць і зьнішчыць незалежнікаў. Супраць выступілі «Ў» — яны вырашылі, што гэта парушае вольнасьць усіх літар.

Атрады карнікаў — «К», «Р», «Н» пачалі вынішчаць незалежніцкія літары, а таксама і «Ў» — на ўсялякі выпадак.

Рэшткі ахвяр, на чале з «Ў» зьвярнуліся да галосных, галосячы аб паратунку.

Літара «У» тайком зьвярнулася да галосных з прапановаю аб дапамозе. Тыя падтрымалі «ахвяр неабгрунтаваных рэпрэсій».

Пад кіраўніцтвам «А» было атрымана некалькі перамог. Але галоўнакамандуючы зычных «С», правёўшы мабілізацыю, здолеў нанесьці некалькі адчувальных удараў па галосных.

Пачалася вялікая вайна.

Забітыя літары адразу скурчваліся, ператвараліся ў сінія чарнільныя плямы. З кожнаю атакай плямаў рабілася ўсё болей. Пасярэдзіне ліста нарэшце ўтварылася возера.

Раман, які ляжаў побач, узьняў атрад наймітаў «О», дадаў рэгулярны атрад лічбаў і паслаў іх як міратворчыя сілы на аркуш. Пакуль тое, стала вядома пра перамогу галосных.

Здраднікі, найміты «О» адразу ж перакінуліся на бок пераможцаў. Лічбы, ратуючыся, уцякалі ў нэйтральны, сувэрэнны форт.

Пасьля працяглай і марнай асады гэтага замку, галосныя рушылі на раман. Ідэя сусьветнага панаваньня галосных захапіла апошніх і ў рамане.

Зычным давялося аб'яднацца, каб не загінуць.

Бой, які пачаўся недзе а трэцяй гадзіне ночы, сьціхнуў на раніцу. На асобных аркушах рамана ўсталявалася ўлада або зычных або галосных. Захопленыя «землі» ўмацоўваліся.

З аднаго боку «Ё», зь іншага — «Ц» як агітатары рушылі да кнігі, што ляжала побач.

Некаторым пашчасьціла прадзёрціся на апошнюю старонку...

Пісьменьнік, які прачнуўшыся й пасьнедаўшы падыйшоў да стала, зьдзіўлена войкнуў. Уся праца была зьнішчана, бы нехта патрымаў паперу ў вадзе. Чалавек паглядзеў на столь. Але ж ноччу не было дажджу.

За некалькі хвілін усё было зьнішчана. Пісьменьнік, усё яшчэ разгублены, пачухаў патыліцу і інэрцыйна ўзяўшы кнігу са стала, паклаў на кніжную паліцу. Паліц у шафе было шмат, а кніг на іх яшчэ болей. Некаторыя з гарадзкіх бібліятэк...

Здаецца, гэтак пачалася першая сусьветная вайна літар, якую людзі пазьней нараклі клясавай. Пасьля былі іншыя: вайна друкаваных і пісаных рукою літар; вайна літар розных колераў (колерная), вайна нацый (лацінка супраць грэцкіх і арабскіх); вайна кампутарная...

Я маю жаданьне апісаць іх усе ў хранагічным парадку. Ня ведаю толькі, ці кране мой твор адна з гэтых боек, але ыеаіооу пріспрмтк йй хмтрпт юіуіааaы хірбццвш 1й2 яіаaоюі еаіеооуою рбшмглц4т 9 йй оотхрснс

# Рэфлексія

Віктусь Раманцоў *(Сьветлагорск)*

Нічога не стаіць на месцы. Нешта зьяўляецца й зьнікае, адраджаецца й зьнішчаецца — і так бясконца. Каб прасьцей, чалавек падзяліў бясконцасьць на эры і эпохі. Кожная эпоха несла свой сьветапогляд, і з кожнае эпохі чалавек зноў выходзіў у супярэчнасьць са сьветам. Антычнасьць, Сярэднявечча, Адраджэньне, Рэфармацыя, Асьвета... Якую назву дадуць нашай эпосе?

* * *

Кожнага разу, калі праходжу па «Алеі герояў» у Шацілавічах, бачу сьляды непрыкметнага разбуральніка. Ён, як разьвярэджаны, бязьлітасны цмок, сьсе цагляную кроў помнікавых падмуркаў, напаўняючы свае пругкія, патугія жыліны барвовай энэргіяй ідальскага дурману. Панурыя твары сацрэалістычных бажкоў нема чакаюць свайго кананьня, і іх бронзавыя галовы, як сымбалічны хлуд эпохі, як друз, падрыхтаваны на Сьметнік Гісторыі.

Камынін, Азалаў, Краснапёраў — героі.

У руках абяздушаных людзей, пазбаўленых свабоднай творчасьці духу, цэгла не зьяднала сваю ўнутраную форму ў адзінае цэлае, яна так і засталася масай. А ў масы можна нешта ўзяць, нешта дадаць, але ніяк не магчыма зрабіць адзінае, аднароднае, бо гэта будзе ўжо ня маса. Дух жывіць матэрыю. Матэрыя, ня маючы ў сабе духоўнай жывасьці, — мярцьвячая маса, друз.

Камынін, Азалаў, Краснапёраў — героі. Яны баранілі сьвет ад фашысцкага д'ябла. Але д'ябал ня можа быць пераможаны без нараджэньня ў пераможцы супрацьд'ябальшчыны — сілы, якая дужэй, а значыць, мацней, страшней, надд'ябальней, звышд'ябальней...

Помнікаўства, балванства, ідэалізаванасьць — рэшткі паганскага сьветаўспрыманьня, якіх ніколі ня вытурыць з чалавечага розуму; яны патрэбныя чалавеку, каб не згубіцца сярод прыроды й сказаць самому сабе: «Я — вялікі ўладар — самы магутны, самы разьвіты, самы разумны!» Себялюбства, эгаізм — вось што прыносілася з кожнай новай эпохай і ўзмацнялалася ў чалавеку, дасягнуўшы нарэшце невыможнасьці.

* * *

Старанна пакладзены майстрам брук, які праляжаў не адно стагодзьдзе, быў закатаны асфальтам. Вось яна — сустрэча дзьвюх эпохаў, старога й новага, духоўнага й бездухоўнага, якая ня можа цягнуцца вечна. Нешта перамагае, і гэтая перамога, як і ў папярэднія часы, — перамога безь пераможцаў.

Дух і мастацтва брукара й мэханічная ніштаватасьць робатаў, лучнасьць з прыродай і лучнасьць з машынай.

Зруйнаваны й перамяшаны з асфальтам брук на вуліцы Перамогі ў Гомлі, вывараченыя камяні — зьнішчаны Дух, зьмяшаны з шэрай мярцьвячынай, якую ня хоча прыняць зямля. Уздыхаючы на поўныя грудзі, яна ламае шэры панцыр. Бездухоўнае не патрэбнае чалавеку, яно й безь яго — ёсьць.

* * *

Затухае чарговая эпоха. Яна — сама бесчалавечнасьць гэтага нізкага, трохвымернага, бялкова-нукляінавага сьвету, патрэбнага чымсьці Ўсявышняму.

Эканамічны марксызм — яе крытычная рыса, якая дасягнула свайго вастрыя, на якім чалавек — нішто, бяздушная матэрыя, цела. А цела можа мець і нябожчык, і мумія, і любы бачны прадмет.

Ленінізм-сацыялізм-камунізм — гэта сьвет абяздушаных, абездухоўленых людзей, якія толькі й ведаюць адно: матэрыяльнае задавальненьне, а значыць гэта царства канчатковых мяшчанцаў-буржуеў. Пазбаўленыя эстэтычнага густу духоўныя галечнікі, купі-прадайчыкі, зматэрыялізавальнікі, страўнявальнікі, чаго ад іх можна чакаць?

* * *

Эпоха Антыгуманізму... Зламаныя цэрквы, касьцёлы, зьняважана й зьнявечана ўсё папярэдняе, так старанна накопленае.

Клясыцызм, готыка, барока... І дамавінная, інтэрнацкая архітэктура Антыгуманізму.

Канфэсійная варожасьць, палітыканства, псэўдабеларускае Адраджэньне, якое нагадвае боль пасьля моцнага ўдару. Першыя сэкунды ён не адчуваецца, толькі пазьней прыходзіць самым моцным штуршком пачатку XX ст., потым больш кволым — канца XX ст., а далей пераходзіць у нуду, якая пазьней зьнікае.

Сыходзіць ліцьвін-беларус, але ня гіне. Тут нічога нікуды не дзяецца й бязь сьледу не прападае. Ліцьвін-беларус зарабіў Ласку Ўсявышняга й губляе сваю фізычную абалонку.

Няўжо цябе яшчэ нешта трымае тут?

* * *

Сьмяецца самая бесчалавечная Эпоха і ў які ўжо раз сьцьвярджае, што ісьціна — гэта самае лепшае з усіх вучэньняў і рэлігій. Канчатковай інстанцыі няма. Яна — рух, які трэба зразумець у кожную хвіліну й сэкунду. Усё тут існуе ў шматвобразнасьці, у якой чалавек можа сябе паказаць, актывізавацца. Аднавобразнасьць — утопія.

Затухае Эпоха Антыгуманізму, сыходзіць, уліваючы сваю фарбу ў агульны эпохавы цэбар, які й ёсьць сама бадзёрасьць зямная.

Няўжо ж ты так і не зразумеў, што выйсьце адсюль — толькі праз высокую духоўнасьць, праз шчырасьць да абсалюту, праз волю, зь якімі трэба прайсьці ў іншы сьвет. Інакш — вечнае таптаньне тут.

# А. і Б.

Андранік Антанян (Вільня)

А. і Б. — два маладыя чалавекі. Гнаныя сушняком, яны рухаюцца ў пошуках таннага піва. Зімовая раніца яшчэ не надыйшла. Гадзіньнікаў А. і Б. ня маюць. Але тралейбусаў яшчэ не відаць, напэўна няма й шасьці.

Размова, што была пачалася з вульгарна-філязофскага — колькі мы ўчора выпілі? — хутка набыла больш абвостранае гучаньне — колькі мы ўчора прапілі? Паразумеліся на тым, што сёньняшняе недамаганьне выклікане хутчэй за ўсё тонікам, які піўся разам з гарэлкай. Тонік і пляшка гарэлкі былі халяўныя. Прэзэнтаванаму каню... Праставіў ім шалёны сябручок Мастак, перакананы ў сваёй геніяльнасьці, як Джоўль у законе захаваньня энэргіі.

Ішоў сьнег. Мокры, звычайны. У А. былі мокрыя ногі, бо зь вечара ён забыў паставіць боты на батарэю. Забыў мусіць таму, што быў нецьвярозы.

Піва ў гэты час можна дастаць хіба толькі на вакзале і, можа быць, на рынку. Да рынку бліжэй. Таму сябры йдуць не куды-небудзь, а на рынак. Яны сябры?

Па дарозе трапляюцца начныя крамы, але яны туды не заходзяць, няма сэнсу. Фінансы абмежаваныя. На рынку звычайна ў гэты час таўкуцца наркоцкага экстэр'еру бабкі ды зь невялікай нацэнкаю прапаноўваюць піва мясцовай вытворчасьці. Зрэшты сёньня для гэтага ня вельмі спрыяльнае надвор'е.

Тратуары засыпаныя сьнегам. А. думае пра тое, ці выйдуць сёньня на працу дворнікі. Сёньня нядзеля. Б. спрабуе ўзгадаць, ці былі ў яго на сёньня справы й абавязкі, але нічога з гэтага не атрымліваецца. У роце пекла, але галава надзіва ясная, толькі думаць ні пра што ня хочацца. А. таксама ні пра што ня хоча думаць, але ён думае. Ён увогуле вельмі ня любіць думаць, ён любіць глядзець у вакно й курыць. Моўчкі. Лепш за ўсё, тоўстыя цыгары з выспы Суматра, але падыйдуць і Бразыльскія. Учора ён выпадкова сустрэў у горадзе сваю колішнюю каханку. Жанчыну, як яму здаецца, зь іншага жыцьця, якое скончылася гады два таму. Яна набіла яму стрэлку, на сёньня. Ісьці ня хочацца, але ня йсьці таксама здаецца глупым. Ён ня ведае, што рабіць, і нават ня хоча пра гэта думаць. Ён хоча халоднага піва. Яму нават не цікава, што будзе пасьля і чым усё скончыцца.

На падыходзе да рынку вісіць афіша, якая запрашае набываць квіткі на канцэрт Пінк Флойда, які адбудзецца ў Златай Празе. Да Прагі далёка. Каля тумбы топчацца дзед з адкрывалкай у руцэ. Піўко, хлопчыкі. Грошы ёсьць на дзесяць бутэлек, але бяруць толькі чатыры. А. і Б. вырашаюць, што грошы яшчэ могуць спатрэбіцца.

Б. баіцца піць халоднае піва. У яго вечна баліць горла. І ўзімку, і летам. Ён сёньня яшчэ ня бачыў таго піва, але ўжо баіцца яго, бо яно халоднае. А. ведае пра гэтую параною свайго сабутэльніка й чакае. Натуральна, гатовы ўзарвацца, калі той адмовіцца выпіць па пляшцы зараз. Б. сам прапаноўвае выпіць на бутэльцы адразу, але ўсё адно жаліцца на хворае горла. У А. вушы залітыя сургучом, ці з чаго там на пошце ставяць пячаткі на каштоўных пасылках. Б. прапаноўвае зайсьці ў мясны павільён і расьпіць піва. Павільён побач. А. памылкова называе яго мясным салёнам. Б. падабаецца гэтая назва. Мясны салён. Б. неабыякавы да мяса. Ён любіць жэрці мяса. Асабліва, калі яно смачна прыгатаванае. А. сілкуецца ў сталоўках. Яму ўсё роўна, што й як прыгатавана, але ў той жа час ён вельмі шануе кухню паўднёвага Кітаю. А. спакойна можа забіць курыцу. Ягоны бацька спакойна забівае парсючкоў. Б. ванітуе нават ад уласнай крыві, але ён вельмі любіць мяса, асабліва, калі яно сьвежае й смачна прыгатаванае.

... Гандляркі яшчэ ў бялюткіх накрухмаленых халатах стаялі за прылаўкамі. Грузчыкі сноўдалі з цэлымі тушамі на плячах. Рубшчыкі гострымі як лязо сякерамі секлі на лягічныя кавалкі яшчэ ўчора жывых істотаў. Рухі ў іх прыгожыя, чыстыя. Аўтаматы. Без замінак сякера падымаецца й апускаецца. Мяса, шмат мяса. Косткі, тлушч. А. вельмі любіць есьці вантробы. Ягоны бацька ў студэнцкія гады працаваў рубшчыкам мяса на рынку і вельмі ганарыўся гэтым фактам. А. быў зь ім цалкам салідарны.

Б. адкаркаваў пляшкі. Пілі з гарла. Першы глыток атрымаўся вельмі працяглы. Банальна, але жыцьцё атрымала свой працяг.

Гандляркі, якія невядома калі згубілі свае таліі і невядома нашто адрасьцілі сабе несуразныя цыцкі, раскладалі на шэрых мармуровых прылаўках вынікі працы плённага саюзу сялян і мясьнікоў. Карбанады, карэйкі, рэбры на суп, вантробы, амаль чорная бараніна.

За адным з прылаўкаў стаяла дзяўчына. Сярод гэтага паноптыкуму грубай сілы й перасьпелага цела яна вылучалася неадпаведнасьцю целаскладу. Маладая. Гадоў дваццаць ёй мусі й не было. Доўгія рукі, тонкія шляхотныя пальцы. Яна брала ў руку яшчэ цёплы кавалак мяса, на твары пачынала граць усьмешка асалоды. А. для сябе зазначыў, што на ёй зараз няма макіяжу. На шчацэ аксамітная радзімка. На целе ў А. было сорак дзевяць радзімак. Калі ён спаў, жанчына, зь якой ён ня ведаў ці сустрэнецца сёньня, пару год таму падлічыла. Налічыла сорак дзевяць. А можа, так, ад балды ляпнула. А ён і паверыў. Якая розьніца, колькі ў цябе на целе радзімак, сорак дзевяць ці дваццаць тры? Дзяўчына глупа ўсьміхалася, нібыта ў руцэ трымала нешта больш канкрэтнае й пругкае. Кілбасу, напрыклад. А. і Б. не згаворваючыся спыніліся насупраць яе прылаўка й, як могуць гэта рабіць толькі пахмельныя істоты, пачалі яе разглядаць. Б. яна падалася вельмі знаёмай, толькі ён ня мог прыгадаць, дзе яе сустракаў, калі сустракаў. А. разважаў пра тое, што ўяўляе зь сябе ейны каханак, напэўна які-небудзь рубшчык мяса. Жывёла, што выпівае кожнага дня конаўку крыві. Жывёла зь вялікім жыватом і дужымі рукамі. А яна мусіць ненажэрная. А можа ўсё зусім ня так. Дзяўчына не зьвяртала на іх ніякай увагі. Слушна рабіла. Б. думаў пра тое, дзе ён сустракаў гэтую дзеўку. Пад хусткай у яе была каса. Б. нават ведаў, што яна рудая. Яшчэ ён злаваўся, што яшчэ вельмі рана, і ён не пабачыць акварыюмных рыбак.

... Пры выхадзе А. набыў у латочніцы апэльсін. Ён вырашыў ісьці на спатканьне з жанчынай іншага жыцьця. Іншага сьвету. Раней, па нядзелях ён набываў апэльсіны. Для яе. Б. ня ведаў, ці сказаць прыяцелю пра недаказальнае пакуль што знаёмства з прыцягальнай мясьніцай, ці не.

... Калі яны пераходзілі мост, А. імкнуўся не глядзець на рэчку, якая зь вялікай хуткасьцю несла крыгі. Усе рэчкі ўпадаюць у мора. Рана ці позна. Прыгадаў радкі:

Голубая речка
обещает мне
Теплое местечко
На холодном дне...

Чый гэта верш? Мо, якога аднакурсьніка? Галоўнае застаецца за кропкай. Дзе ён гэта пачуў, навошта зараз прыгадаў? Курыць не хацелася.

... Пасля пілі піва пад сьвятлом кінаюпітэра, А. думаў, чаму жанчыны адмаўляюцца спаць з адзіным мужчынам на гэтым сьвеце, які іх кахае, толькі на той падставе, што яны раней спалі з усімі на сьвеце. І яшчэ ён думаў, ці кахаў ён жанчыну, да якой пойдзе праз пару гадзін на спатканьне. Кахаў — не кахаў, але забіў амаль два гады. Ён яшчэ думаў, ці шчыры ён сам з сабою, і таксама ня ведаў адказу. Так лягчэй жыць, калі нічога ня ведаеш.

... Б. думаў пра стракатых рыбак, якія калі-небудзь будуць плаваць у ягоным акварыюме (ён завядзе сабе сапраўдны вялікі акварыум) і мясьніцу з рудою касою. Прынамсі, мне хочацца, каб ён думаў пра яе, і разважаў на тэму, ці прыемна мець жанчыну, ад якой тхне баранінай.

... Праз пару гадзін А. прычасаўся, пачысьціў зубы й пайшоў на сустрэчу. Яго чакалі на Катэдральным пляцы. Яго сапраўды чакалі. Здароў, ну распавядай.... Нічога такога ён не распавядаў, нават ня жаліўся на жыцьцё. У цябе ёсьць сяброўка? Паціснуў плячыма. Зайшлі ў кавярню. Там гучна грала музыка. Ён хацеў нешта сказаць, але гаварыць не выпадала — трэба было крычаць. Каля стойкі раптам пачалі танчыць дзьве дзеўкі. Звычайныя, занадта звычайныя. Да таго ж танчылі яны ня вельмі. Усё гэта нагадвала фільмы Шукшына, калі калгасьнік прыяжджае ў горад, заходзіць у прыстойную ўстанову й пачынае свае дрыньдзі-дрыньдзі-балалайка. Вельмі непрыемнае ўражаньне. Сказаць нічога не сказаў. Выпіў кавы, разьвітаўся й пайшоў, з кішэні выпіраў апэльсін. А што яна? Скуль яму ведаць.

... Нядзеля. У горадзе пуста. Зноў паваліў сьнег і А. невядома нашто зайшоў у цырульню. Чаргі не было, ён распрануўся й разваліўся ў крэсьле. За пакамечаную паперку яго падстрыглі пад нуль і апрыскалі нейкім надта рэзкім адэкалёнам. Шапку ён забыў у кавярні. Вяртацца было ў лом, ды ён ня вельмі любіў вяртацца па забытыя рэчы. Рабіць гэта прыходзіцца ўсім, але ня так непрымныя страты, колькі пошукі. Ісьці па праспэкце з лысай галавой у сьнежні крыху дзікавата. Мінакі азіраліся. Ён зруліў на раўналежную вуліцу і спакойна дайшоў дадому.

... Назаўтра А. прачнуўся хворы, балелі вушы, таму нікуды не пайшоў. У ложку ён праваляўся з добры тыдзень, і апэльсін пачаў ужо загніваць у кішэні паліто. Праз тыдзень ён узгадаў пра яго і зьеў.

... Б. у гэты ж дзень сустрэў у пад'езьдзе мясьніцу з рудою касою і аксамітнай радзімкай на шчацэ. Пры сустрэчы яны павіталіся, але не маглі прыгадаць, адкуль адзін аднога ведаюць...

А. і Б. сядзелі на трубе
А. упала, Б. прапала...

Жанчына, зь якой так і не пагаварыў А... І не пагаварыў ён зь ёй не таму, што не хацеў, а проста вельмі хваляваўся й музыка ў бары выбіла яго зусім з каляіны... Яна зьехала ў цягніку туды, адкуль прыехала. Але гэта ўжо зусім неістотна.

# ФЕНЕЧКА

Кароткі слоўнік менскіх хіпі й панкаў канца 70-х і пачатку 80-х гадоў, складзены Адамам Глёбусам

**АДЦЯГНУ́ЦЦА** — злавіць кайф, адпачыць — *Пайшлі да Крыні, адцягнемся.*

**АСКА́ЦЬ** — прасіць, клянчыць, сшыбаць грошы (звычайна, на алейках, у парках, на вакзалах) — *Есьці хочацца, пайшлі аскаць на стрыт...*

**А́ТАМ** — выдатна, адвал, адвальна, клёва, кайфова — найлепшая якасьць чаго-небудзь — *У Людкі штаны — атам!*

**БА́БКІ** — грошы; падняцца на бабкі — зарабіць зрошы — *Падруга, у цябе бабкі ёсьць?*

**БА́ШЛІ (-НІ)** — грошы — *Швед, мне Баця павінен башлі, забярэш, а я звальваю.*

**БАШЛЯ́ЦЬ** — фінансаваць, даваць грошы, плаціць — *І колькі табе на рабоце башляюць?*

**БАЯ́Н** — шпрыц — *Слухай, фуцах, на баяне іграеш?*

**БЕРЛО́** — ежа, харч — *Ну й берло, проста рэстаран «Патздам».*

**БЕРЛЯ́ЦЬ** — есьці, хаваць, жэрці — *Я з раніцы галодны, можа ёсьць паберляць.*

**БУХА́РЫК** — алкаголік, п'яніца, п'яны чалавек — *Там на прыступках бухарык ляжыць, абсураўся ўвесь... — Добра, калі праз дваццаць гадоў будзем такія, а ня горшыя.*

**БУХА́ЦЬ** — піць алкагольныя напоі, кіраць, закладаць за каўнер (састарэлае, шырока ўжываецца беларускімі літаратарамі) — *Перапынак, не бухаю, трапак (трыпер).*

**ВАЛАСА́ТЫ** — 1. Чалавек — мэн, які ўваходзіць у хіповую сыстэму, неабавязкова з доўгімі валасамі — *Валасатыя больш не зьбіраюцца ля Пентагона (Дома афіцэраў).* 2. Хіпі, патлаты, хайраты — *Падыходзіць да мяне валасаты абкураны ва ўмат.*

**ВАЛІ́ЦЬ** — 1. Сыходзіць — *Менты падрульваюць, ну мы й звалілі з алейкі.* 2. Уцякаць — *Звал!!!*

**ВЕРЗА́ЦЬ** — 1. Спраўляць вялікую патрэбу — *Пайду ў дабл, паверзаю.* 2. Гадзіць, рабіць непрыемнае — *Я да яго па-чалавечы, а ён, мудак, ня можа, каб не абверзаць.*

**ГЕРЛА́** — дзяўчына, сяброўка, каханка — *У Шведа адвальная герла, бюст дзявятага памеру.*

**ГЛЮКА́РНЯ** — месца масавага глюканьня — *У Сары на флэце — глюкарня.*

**ГЛЮКІ** — галюцынацыі, наркатычныя мроі, мульцікі — *Такія глюкі, шызанууца можна.*

**ГРЫЦ** — месца тусоўкі, сквэр Янкі Купалы насупраць цырка (раней сквэр імя Грыцаўца), дзе зьбіраліся хіпі на канцы 60-х і ў 70-ыя гады — *На Грыцы класна было. Конь казаў, што нават вербы свабоднай любові былі, іх менты сьсеклі.*

**ДАБЛ** — прыбіральня — *Пакуль ты аддаблісься, я падгур здыму.*

**ДЗЯРЖЫ́НКА** — месца тусоўкі, алейка на вуліцы Камсамольскай, дзе стаіць бюст першага чэкіста краіны Саветаў. Хіпі разам з панкамі зьявіліся там падчас другой хвалі, на пачатку 80-х гадоў — *На Дзяржынцы адны малалеткі... Там нават Алекс каралём ходзіць.*

**ДО́ДЖЫК** — 1. Пастаянная, найбольш аптымальная й правераная доза наркотыка — *Мой доджык — пяць кубоў.* 2. Порцыя алкаголя ці ежы, хаўкі — *Доджык дрынкнем трэці раз, за тых, хто бараніў Каўказ.*

**ДРУШЛЯ́ЦЬ** — спаць, кімарыць, храпсьці (састарэлае, але шырока распаўсюджанае сярод беларускіх байкапісцаў) — *А я гадзінку падрушляю.*

**ДУР** — марыхуана — *А ў мяне першы раз ад дуры толькі смочкі замерзлі і больш нічога, ніякага кайфу, не дагнала.*

**ДУ́РКА** — вар'ятня, псыхіятрычная лякарня — *Саід у дурцы, прасіў, каб ты кір прывёз.*

**ДЫНА́МІЦЬ** — падманваць, падводзіць, пракідваць — *Гэта? Я ёй стрэлку накінуў, а потым прадынаміў.*

**ЖА́БА** — 1. Панкаўская дзяўчына — *А жабы будуць? — Колькі хочаш, як гразі.* 2. Жанчына — *Ты гэту жабу атадраў? — Нафіг трэба.*

**ЗАВЕ́РНУТЫ** — 1. Моцна захоплены чым-небудзь — *Шыма на рамане завярнуўся. Піша, потым патэлефануе: «Швед, я пра цябе напісаў!», кідае трубку і зноў піша.* 2. Звар'яцелы — *Ад такіх наваротаў і завярнуцца можна.*

**ЗАМАНДЗЯ́ЧЫЦЬ** — 1. Ударыць, улупіць, замачыць, шарахнуць — *Не пасьпеў я слова сказаць, а ён як замандзячыць мне ў бараду.* 2. Сказаць моцнае слова, пажартаваць — *Гаварылі, гаварылі, і раптам Француз як замандзячыў пра Ірку, што яна шкура — пачаліся разборкі.*

**ЗДЫМАЦЬ ПАДРУГ** — знаёміцца зь дзяўчатамі — *Падвальваем да лаўкі. Дзьве падругі кураць «Арбіту». Мы і так, і гэтак, а яны нязьёмныя. Давялося прагнаць з Алейкі.*

**КАЙФ** — 1. Найвышэйшая ступень задавальненьня — *Без кайфу няма лайфу.* 2. Наркотык — *Алё, Швед, у цябе кайф ёсьць? У мяне ломка пачынаецца.*

**КАЙФОВА (КА́ЙФНА)** — выдатна, клёва — *Люблю Морысана, кайфовы музон.*

**КАСІ́ЦЬ** — прыкідвацца, часьцей за ўсё — касіць пад крызу: сімуляваць вар'яцтва дзеля вызваленьня ад службы ў войску ці замены турэмнага зьняволеньня на псыхіятрычную лякарню — *Хац закасіў. Сапраўды лепш год у крызе, чым пятнаццаць у Растоўскай турме.*

**КАЦІ́ЦЬ** — атрымлівацца, атрымліваць прызнаньне — *Ізноў рок ня коціць, адна папса.*

**КІДА́ЛАВА** — 1. Крадзёж — *Я ж казаў, што стопрацэнтовае кідалава. Яго і павязалі.* 2. Падман — *Больш не прыйду, дамаўляўся не дамаўляўся — кідалава.*

**КІ́НУЦЦА** — памерці, загнуцца, адкінуцца, ласты склеіць, акачурыцца — *Піт ад перадазьняка кінуўся.*

**КІСЬЛЯК МАНДЗЯ́ЧЫЦЬ** — гнаць сумную цялегу, распавядаць нецікавую гісторыю — *Малы, канчай кісьляк мандзячыць, вушы вянуць.*

**КЛЁВА** — выдатна, кайфова — *Клёвыя шузы. Дзе надыбаў?*

**КЛЮЧ** — канец, каюк, прыезд — *Хай толькі сунецца і яму — ключ.*

**КРУТНЯ́К** — выбітнасьць, выдатнасьць — *А ў Піцеры такія крутнякі, такія навароты.*

**КРУТЫ́** — магутны, нязломны, мэтанакіраваны — *Я мэн круты...*

**КРЫЗА́** — 1. Псыхіятрычная лякарня, дурка — *Лепш крыза, чым салдаты.* 2. Вар'ят, нястрыманы чалавек — *Мамант зь ментамі зачапіўся, крыза.* 3. Вар'яцтва — *На выставу Русавай схадзілі, крыза.*

**КРЫ́ША** — дах, зьявілася ў 90-я гады. 1. Розум — *Ад тваіх вершаў у мяне крыша паехала.* 2. Галава — *Нашто ж ты пад кулак крышу падстаўляў?*

**КСІ́ЎНІК** — самаробная абгортка для ксівы (пашпарта), паходзіць ад кісета, бо шмат хто з хіпі зьбіраў недакуркі і складаў у кісет, які насіў на грудзях; зазвычай ксіўнік носяць на грудзях, аздабляюць яго значкамі і вышыўкаю — *Сяджу, нікога не чапаю, ксіўнік вышываю.*

**ЛОМ** — непрыемнасьць — *Мне ўсе твае разборкі ў лом.*

**МАЖО́РЫ** — прыкінутая (модна апранутая) моладзь, звычайна, прыфарцаваная і элітарнага паходжаньня — *На Паркавай тусуюцца мажоры.*

**МАХА́ЛАВА (МАХАЧ)** — бойка — *Учора каля Унівэрсаму такое махалава было. Жах. Менты траіх лохаў загасілі.*

**МАШЫ́НА** — шпрыц — *Раніцай прыходжу, а на стале машына ляжыць. Сто разоў казаў, каб хавалі шпрыц. Давялося настукаць па рагах. Але малалеткі ёсьць малалеткі. Гнаць іх трэба.*

**МУДО́ХАЦЬ** — мучыць, біць — *Канчай, ты ўжо ўсіх замудохаў.*

**НАРКО́Т** — 1. Нарканан, які не ўяўляе зь сябе нічога цікавага — *Не цікава, там адны наркоты.* 2. Алкаголік — *Каля піўзаводу наркоты тусуюцца.*

**НІШЦЯ́К** — 1. Добра, выдатна, клёва — *Усё нішцяк!* 2. Тое, што дастаецца бясплатна, «на халяву» — хаўка, напрыклад — *У «Хвілінцы» піцу не даядаюць, можна пайсьці й захаваць нішцячок.*

**ПАДЛЯ́НА** — подласьць, здрада — *Кэт усім такую падляну кінула — забрала грошы й звалiла ў Львоў.*

**ПАДПІСА́ЦЦА** — запрасіць, прапанаваць, угаварыць, заманіць, абавязаць, прымусіць — *І я падпісаўся тую халтуру рабіць.*

**ПАМЫ́ЙКА** — бар у паўпадвале на рагу былога Ленінскага праспэкту і вуліцы Леніна, месца, дзе зьбіраліся менскія хіпі — *Усе дарогі вядуць у Памыйку. — А ты што цэнтравы?*

**ПАТЛА́ТЫ** — валасаты, хайраты, хіпі — *У Памыйцы адны патлатыя. — Мастакі? — Вядома, зь іх усё й пачынаецца.*

**ПЕНТАГОН** — кавярня ў менскім Доме афіцэраў, месца дзе зьбіраліся хіпі перад тым як перайсьці ў Памыйку — *А мне Пентагон ніколі не падабаўся, адно кір.*

**ПЛА́Н** — марыхуана, дур, гашыш, кайф — *План ёсьць? — Планы ў камуністаў, а ў нас кайф.*

**ПОДЗЬВІГУ НАРОДА** — сквэр насупраць музэя Вялікай Айчыннай вайны, месца збору хіпі — *А мы ўчора на Подзьвігу народа бутэльку вермута разьбілі.*

**ПРАКІ́ДВАЦЬ** — падводзіць, не зрабіць абяцанае, падманваць — *Звал. — А Элка? — Пракінем, нефіг спазьняцца.*

# Чарговы фініш

Зьміцер Бартосік

Я шмат што памятаю з маленства. Ад найвялікшых радасьцяў да найсьмяротнейшых крыўдаў. Нават да сёньня памяць захоўвае зайздрасьць да суседзкага сына, што меў цацку, якою я так і не завалодаў ніколі. Гэта глёбус. Фізычны глёбус з адзінай нефізычнай адзнакай — тлустай, чырвонай паласой, што йшла па зялёна-блакітным полі, як бы даючы зразумець што хоць Зямля й адна, але гэта не зусім так. Іх дзьве — наша й іхняя. Па адзін бок чырвонай стужкі Крэмль, кракадзіл Гена ды «красный день календаря». Па другі — незразумелыя нярускія словы, голыя цёткі ды галодныя раўналеткі. Я быў шчасьлівы, што знаходжуся па гэты бок зямлі. Але, нягледзячы на тое, што цётак мне тады не хацелася, а незразумелыя словы выклікалі абрыду (як, зрэшты, і цяпер), для поўнага шчасьця не хапала гэтай сваёй зямлі. Хаця б з-за немагчымасьці чым-небудзь падзяліцца з раўналеткамі. І чым болей павялічваўся мой рост, тым меней мне хацелася «паглядзець Маскву».

Але зь цягам часу чырвоныя дні пачарнелі, Крэмль сам апынуўся за мяжой, а кракадзіл Гена загаварыў «нярускімі словамі».

Сябры пачалі сноўдаць за зьніклую рысу, якая для мяне так і заставалася непераадольным бар'ерам. Аднаму, які правёў месяц у Лёндане, я спачуваў з нагоды ягоных растрат у самым дарагім горадзе Эўропы. Другога, які спазьніўся на парыскі цягнік, суцяшаў: «Не бядуй, братка. На транзытным дабярэсься». А сам чакаў пашпарту, каб і мне нарэшце пазайздросьцілі. Стомленаму бадзягу, які толькі што вярнуўся з Парыжу з перапоўненай мэлёдыямі галавой і трыма франкамі ў кішэні.

Пасьля доўгіх месяцаў чаканьня, я, нарэшце, атрымаў гэты чароўны дакумант. Ужо «па справе» адшукаў «Атлас мира» і заваліўся зь ім на канапу, гартаючы старонкі, нібы ў рэстарацыйным мэню. Словы, што раней стаялі ў адным шэрагу з назвамі плянэт, цяпер трохі страцілі сваёй недасягальнасьці. Парыж... Гватэмала... Паланга...

На другі дзень майго паўнавартаснага грамадзянства я атрымаў адпаведны сюрпрыз. Запрашэньне на «далёкую Беласточчыну» для ўдзелу ў бардаўскім фэсьце.

Ведаў я аднаго алкаша-кніжніка, які любіў сам сабе рабіць сюрпрызы. Як толькі здараліся грошы, частку іх ён акуратна прапіваў, а рэшту купюраў рассоўваў па тамах сваёй велізарнай бібліятэкі. І, вядома, адразу забываўся пра іх. Але гарэлачны запой мяняўся на чытацкі і, о радасьць, на самым цікавым месцы вывальвалася нечаканая «пяцёрка». Жыцьцё, такім чынам, складалася з пэрыядычных маленькіх радасьцяў.

Нешта падобнае атрымалася і ў мяне. Адаслаўшы на прадвесьні пару тэкстаў, я й забыўся на гэтую забаву. Колькі ж яшчэ неспадзяванак чакае мяне! Сам сабе зайздрошчу й баюся адначасова. Баюся замест сюрпрызу знайсьці здэвальваваную часам, нікому не патрэбную паперку.

* * *

Алтуль прыходзілі цывільнай паліграфіі выданьні. Даходзілі зьвесткі пра тамтэйшыя беларускія ліцэі. Захоўваліся ў памяці рэпартажы з «Басовішчаў». Уяўлялася гэткая добраладная беларускамоўная краіна, дзе пра «чужынскі прыгнёт» нагадваюць толькі шыльды ды грошы з арламі.

* * *

Кампанія сабралася невялікая. З патрыярхаў беларускай бардаўскай песьні былі Алесь Камоцкі й Віктар Шалкевіч. Маладую зьмену прадстаўлялі Ігар Мухін з Магілёва, знаёмы мне па мэлядычных песьнях на вершы Багушэвіча, Лана Медзіч, сталічная лірычная бардэса, ну й я.

Пад акорды й тосты неўпрыкмет праляцела Беларусь. У цемры паказаліся агні да нядаўняга часу містычных варот

ПРЫКІ́Д — вопратка — *Нішцяк прыкід.*

ПРЫКО́Л — непаразуменьне, жарт, сьмешны выпадак — *Папоў паўшклянкі хіннай вады, што супраць перхаці, заглынуў і як стаяў, так і ляснуўся фэйсам аб асфальт.*

РАГА́ТЫ — тралейбус — *Дабярэцься на рагатым №6.*

РАЗБОРКА — высьвятленьне адносінаў — *А мне вашыя разборкі да фені.*

РАСКЛАДЫ — сытуацыя, варыянт — *Я ня ведаю раскладаў.*

РА́ТУША — пляц насупраць Дома ўраду, месца збору менскіх хіпі — *Князя памятаеш? — З Ратушы? — Так. Сустрэў — ледзь пазнаў...*

СІСТЭМА — арганізацыя хіпі, тусоўка — *У Піцеры самая крутая сістэма — А мне падабаецца Львоўская.*

СКІПА́ЦЬ — уцякаць, звальваць, хавацца — *На лета ў Палангу трэба скіпаць.*

СТОПНІК — атлас аўтамабільных дарог — *У мяне ў кішэні стопнік, я ня рокер і ня гопнік.*

СУРЛЯ́ЦЬ — мачыцца, спраўляць малую патрэбу — *Пайшлі пасурляем.*

СЬЦЁБ — 1. Павышэньне якасьці, пераўзыходжаньне — *Ды я яго на раз засьцябаю.* 2. Жарт, сьмех, сарказм — *У «Мроі» класны сьцёб, месцамі.*

СЬЦЯБАЦЦА — 1. Прыставаць, ляпіцца — *Ну што ты да курыц дасьцябаўся.* 2. Жартаваць, насьміхацца, іранізаваць — *Канчай высьцёбвацца.*

СШЫБАЦЬ — прасіць, патрабаваць, звычайна цыгарэты і грошы — *У мяне ёсьць капейка — пачатак, пайшлі на банец насшыбаем.*

ТАРЧОК — наркаман (жартоўнае) — *Завал, адны тарчкі.*

ТА́СКА — стан лёгкага наркатычнага ап'яненьня, лёгкае луначньне, лёгкі кайф — *І ад клея можна заташчыцца.*

ТРАВА́ — анаша — *Дастаць травы.*

ТРА́ХАЦЬ — рабіць коітус, факаць — *Ен цябе трахае?*

ТРЭСЬЦІ — прасіць, забіраць грошы і цыгарэты, тое што і сшыбаць, аскаць — *Я на вакзале рублёў трыццаць магу натрэсьці за дзень.*

ТУСАВА́ЦЦА — 1. Хадзіць на тусоўкі — *Ты ў Тарту на тусоўку паедзеш? — Трэба тусануцца.* 2. Мець сувязі сярод тусоўшчыкаў — *Ты з рокерамі тусуесься.* 3. Кантактаваць — *Ты тусуесься з гэтай прашмандоўкай?*

ТУСО́ЎКА — 1. Збор людзей — *Не пакоціць, гэта камсамольская тусоўка.* 2. Сыстэма, саюз, партыя, арганізацыя — *Люблю рокерскую тусоўку.*

УЗБУХА́ЦЬ — паўставаць, абурацца, выступаць — *Жаба, канчай узбухаць.*

УМА́Т (ВА ЎМА́Т) — 1. Пад кайфам — *Нагіш сёньня ва ўмаце.* 2. Вялікая ступень чаго-небудзь — *Абкураны ва ўмат.*

УМА́ТНЫ — 1. Свой — *Алекса ўматны мэн. — Быў.* 2. Выдатны — *«Уліс» уматная каманда. — Была.*

УСПУХА́ЦЬ — выступаць не па справе (ня ў троп) — *А Шуга ўсё ўспухае і ўспухае, задзёўб.*

ФАК — коітус, полавы акт — *А мне факі не ў кайф — Вядома, трапак.*

ФАКА́ЦЦА (ФАЧЫЦЦА) — рабіць коітус, трахацца, маркітавацца, любіцца... — *А ты, калі яе факаў у пад'езьдзе, станавіўся на прыступку вышэй?*

ФЕ́НЬКА — 1. Любая маленькая рэч — *Пакажы феньку.* 2. Упрыгожаньні хіпі — *Мне Ваўчыца ксіўнік падарыла. Клас фенька.* 3. Маленькая гісторыя, показка — *А мне Філ такую феньку расказаў...* Гэты слоўнік таксама фенька.

ФУЦА́Х — хлопец, мэн, хіпар... — *Ты, фуцах, пакуль я дайду да той вунь лаўкі, цябе на алейцы ня будзе.*

ФЭЙСО́ЎКА — бойка, мардабой — *Учора Швед каля Памыйкі такую фэйсоўку наладзіў, умат.*

ХАЙР — валасы, доўгія валасы ў мужчыны — *Хайр гэта ня проста патлы, гэта — наш сьцяг.*

ХАЙРАНУ́ЦЬ — пастрыгчы — *На Грыцы менты Маманта хацелі хайрануць. Ён вырваўся. І яму шыю нажніцамі прабілі. Кажуць — выпадкова.*

ХАЙРА́ТНІК — стужка або раменьчык, які абвязваецца вакол галавы, каб валасы не траплялі ў вочы — *Клёвы хайратнік, скураны... Дзе надыбаў?*

ХАЙРА́ТЫ — даўгавалосы мужчына, звычайна хіпі — *І на Ратушы хайратыя зьбіраюцца.*

ХА́ЎКА — ежа, харч — *Клас хаўка.*

ХІПАНЫ — хіпі — *Хіпаны, хіпаны... Тусоўка! Хіпаны, хіпаны... Вермут! Хіпаны, хіпаны... Кайф!*

ХІПАР'Ё — хіпі — *На Грыцы адно хіпар'ё.*

ХІПАРЫ́ — хіпі — *Я рыскага хіпара сустрэў, ён сказаў, што Шведа ў Львове бачыў.*

ХІ́ПІ — частка моладзі 60-80 гадоў XX стагодзьдзя, якая вызнавала пацыфізм — *Мы, хіпі, кветкі жыцьця.*

ХІПО́ЎКІ — дзяўчаты хіпі — *Мы хіпоўку за травой на Камароўку паслалі.*

ХІПУШКІ — дзяўчаты хіпі — *Я да Мароза зайшоў, а там адны хіпушкі.*

ХЛАМ — вышэйшая ступень чаго-небудзь. (Часьцей за ўсё ап'яненьня й абкуркі) — *Абпыхаліся, хлам.*

ХЛЕБНЫ ХАЙР — хайр, адрошчаны ў баку ад небясьпек, на бацькоўскіх харчах (зьняважлівы выраз) — *Прыбярыце ад мяне хлебны хайр.*

ЦЫВІ́ЛЬНЫ — афіцыйны, прыняты большасьцю — *У яго нават фэйс цывільны.*

ЦЯГНУ́ЦЬ — трахаць, факаць, любіць... — *Нармальная жаба, можна й пpainцягнуць.*

ЧУМА́ — 1. Вар'яцтва — *Ты што, гэта ж чума!* 2. Дзікая, ненармальная зьява — *У мяне быў знаёмы, Шыма — чума.*



Здымак Алены Адамчык

дзяржавы. Спадарожнікі пачалі даставаць пашпарты, на зайздрасьць мне заплямленыя візамі й памежнымі штампамі.

Мяжа сапраўды нагадвае лягерную браму. Драты, вайсковыя фуражкі, вышкі. Перад намі шманалі смаленцаў. Няшчасных пастроілі ледзь не па росту, уздоўж аўтобуса з рэчамі ў руках. Для поўнага кіна не хапала сабачага брэху й камандаў па-нямецку. Наш пяцідзесяцімясцовы карабель зь дзясяткам нецьвярозых пасажыраў з гітарамі троху зьбянтэжыў панурага вартавога, але адказ быў: «Вы свободны.» Гэта значыць — «на свободу с чистой совестью».

Я шмат разоў уяўляў гэты момант і заўсёды пад гімнавыя гукі пяючай ад радасьці душы. Ну вось. Якую ўжо хвілю качуся па «далёкім замежжы». Пульс у норме. Спадарожнікі засынаюць. За вокнамі ноч, нецікавая й пахмурная, як, напэўна, паўсюль на гэтай зямлі, незалежна ад межаў.

Вось толькі дзень іншы. У маленькім гарадку, у параўнаньні зь якім Баранавічы з Барысавам выглядаюць монстрамі ўрбанізацыі, пры сьвятле дня лепш бачнае нашае ўбоства.

Ратуша. Усяго нічога, але яна робіць гэтае места горадам па сутнасьці, незалежна ад статусу й колькасьці вясковых бежанцаў. Тое, што вуліцы будуць чысьцейшыя ды крамы цывільнейшыя, я здагадваўся. Дамы менш аднатыпныя й шэрыя, і таму здаюцца больш абжытымі. Перад імі газончыкі-кветнікі, дзе-нідзе скульптуркі нейкіх калядных гномаў. У маім мікрарасне газоны патроху ператвараюцца ў бульбяныя плянтацыі.

Штосьці затрымала мяне каля праваслаўнай царквы. Здаецца, і крыжы тыя самыя, і моляцца па-расейску, а штосьці ўсё ж ня так. Нарэшце, зразумеў. Не хапае бязладзьдзя ў царкоўным пэйзажы, ці то калюжы з адбіткам купалоў, ці то нейкай трубы на заднім пляне. Таго, адным словам, з чым не спалучаюцца ў маім уяўленьні каталіцкія храмы. Нарэшце, гармонію аднавіў неапахмелены патрыярх бардаўскай песьні Камоцкі. Свой сумны позірк ён пераводзіў са сьціплай царквы на нейкі бэтонна-мадэрновы палац побач зь ёю.

— Во, глядзі. Тут жыве Бог, а тут — служка Божы. І я баюся адказаць, хто зь іх жыве лепш.

Я блукаў па маленькім гарадку, дзе адзінай адзнакай беларускасьці былі афішы «Бардаўскай песьні», і не знаходзіў адказу на пытаньне, ці адзіны народ жыве па розныя бакі мяжы. Напэўна, так. Няцяжка ўявіць сабе ўбогі райцэнтар Бельскага раёну Беластоцкай вобласьці, не правядзі Іосіф той ракавой рысы.

Пясьняр Мухін ніяк не хацеў разьвітвацца зь мітам пра беларускі «востраў Крым» і праводзіў своеасаблівы экспэрымэнт. Пытаўся ў мінакоў усялякаю лухту — ці то пра дакладны час, альбо ці туды ён ідзе. І з надзеяю ў вачох чакаў адказаў па-беларуску. Яму прыязна адказвалі, але па-польску, чым усё больш даводзілі яго да адчаю. Нарэшце, нейкая сталага веку кабета растлумачыла на ламанай расейскай мове, як прайсьці да рынку. Хвіліну пясьняр глядзеў ёй у сьлед з удзячнасьцю й пяшчотай, паўтараючы: «Беларуска. Вось яна, сапраўдная беларуска».

Быў у мяне лёгкі сумнеў наконт таго, што немалая заля ДК будзе цалкам запоўненая. Надвор'е гнюснае, асаблівай рэклямы не было. Але абодва вечары былі шумныя аншлягі. Адкуль такі ажыятаж? Дзіўная цяга да мовы, якую пакуль што можна пачуць хіба толькі ў песьнях? Ці можа, няма куды яшчэ падацца. Але па ажыўленай залі такога ня скажаш. Усе доўгія тры гадзіны канцэрту яна ўсіх выканаўцаў адорвала авацыямі й падхлопваньнямі.

*Працяг на старонцы 12*

# Гане Тадароўскі

### ВЕРШ ПРА РОБАТА

Шкада мне робата, бо ён сам па сабе
рабом ня можа стаць, ані бунтаўніком!

Шкада, бо не праявяцца ў яго
уласныя нядбайства ці дурнота!

Шкада яго, бо не ўвазнае суму
каля рэклямаванай прыгажуні!

Шкада, бо ён ня можа апынуцца
ў лякарні вэнэрычнай ці вар'ятні!

Шкада, бо не. зьняверыцца ў сьвятынях
і ў роспачы не перарэжа венаў!

Шкада, бо ракавай пухліны не баіцца!
Шкада мне робата, што ён заўсёды робат!

### СПАКОЙНЫ КРОК

*Енчу Наумаву*

1.
На шэрыя скукожаныя абрысы прадмесьця
змрок высыпае пыл
і як вястун блізкай ночы
разьмяркоўвае вечаровы дэкор.

Цісьне на пачуцьці сьвежы пах змроку.

Веру: ён думаў, што ноч — маленькі квадрат,
неміласэрны да ўсіх самотных,
таму і кінуўся да парогу яе,
адольваючы напружаны морак, заглыбіўшыся сам у сабе.

Веру: вабіць самотных ночы дно,
для іх гэта гавань, схованка ад вачэй.
Там часта вышэптваюцца апошнія звароты да дня,
там часта нікога няма, і ня трэба.

Веру: ён думаў, што ноч — ціхая пустэча, дзе
зьнепакоеныя шукаюць спакою.

2.
Раніцай мы знайшлі яго ў шпітальным моргу,
як заўжды аднаго, на бэтоннай падлозе,
як заўжды у палоне самоты, ад якое ўмомант
ён хацеў уратавацца.
У вачах ягоных расплюшчаных сьветлых,
як выпаласканае майскае неба,
міргала вітаньне шчырае.
А мы ж хацелі знайсьці апраўданьне
ягонага ўцёку.
Вочы ўяўляліся шчылінамі, праз якія
можна было ўгледзець прычыну таго,
што хавала ад нас кастрычніцкая ноч.
Мо, належала па-ўолтуітмэнаўску
лічыць проста разваліною
гэтае цела, што ў трупярні
нам пад ногі няпэўная трапіла,
гэтую кволую ненадзейную абалонку,
данядаўна знаёмую нам,
як вучань восьмае клясы,
пра якога ў нэкралёгу паведамлена:
загінуў ад няшчаснага выпадку.

3.
Ніхто не дазнаўся, чаго ён уцёк ад людзей
і апынуўся ў прадмесьці на рэйках,
моўчкі трапіў у абдымкі чыгунныя і халодныя,
відаць, імкнучыся вырвацца з палону самоты.
Сёньня ўжо ён — тэма ўспамінаў радні
і надпіс на камені, які не расказа ніколі
пра адчай нямы таго фіналу,
пра той спакойны крок, зроблены ім
уначы восьмага кастрычніка.

4.
Калі часам бяруся чытаць Сандбэрга,
невыпадкова спыняюся на вершы, у якім
гэты стары чалавек даводзіць:
Сьмерць — гэта спакойны крок
у лагодную ясную поўнач.



### СЕМ ЗВАРОТАЎ ДА МАТЫВУ АСІНЫ

1.
Зялёныя вейкі бяссоньня.
Зялёнае маўклівае трымценьне.
Яна, палявая красуня,
пасярод поля супакою ня мае.

2.
Стан яе — зеляніна матылькоў,
Прыпыненых на вэртыкальным узьлёце.

3.
Зьнемагла без спакою,
стрымцелася, углядаючыся ў аблокі,
цікуючы за дарогаю, сумуючы па вандроўніках,
зябнучы нават у летнюю сьпёку.

4.
Ці то ад боязі, ці ад бяссоньня трымціць яна,
з марамі грэшнымі, ды ўсё самотная?

5.
Як сваёй хросьніцы я б ёй імя абраў
Неспакой-трапятлівіца альбо Нядоля-бясплодніца.
А каб стаў ветрам, хутчэй бы дрыготку суняў,
прагнаў бы спалох ад ліхой адзіноты.

6.
А што робіцца зь ёй, гэта бачна заўжды —
ранак, дзень, вечар, ноч... яна ўсё лыкаціць.

7.
Пэўна, зайздрасьць бярэ
да птушыная сям'і, што гняздо сабе ўе на галінах яе,
Бо упэўненасьць там, суцяшэньне і род.
А тут бяссоньне, бясплодзьдзе. Зялёны неспакой.

Пераклаў з македонскай Іван Чарота

# Іван Раявіч

### БЛАКІТНЫ ХАОС

усю ноч усьмешку сваіх супляменьнікаў
у руцэ трымаў каб яго запамятаць
блакітны хаос
у канцэнтрычных кругах
ты знайшоў сабе прытоньне
вызіраеш час ад часу
заўжды крыху збляднелы і прысаромлены
і распаўзаесься пад маім эмаляваным небам
храбусткі ёлупень
з дыстанцыйным кіраваньнем
трэба толькі табе крэйдаю
на ілбе крыж паставіць
і прагліне цябе змрок
а ці тваю пешчаную трыбуху
сабакі бяздомныя
па вуліцах расьцягаюць
адлюстроўваючыся ў касых вітрынах
ювэлірных крамаў

# Адам Пуслаіч

### ПАМЁР М.Б.

Не памёр, кажуць.

Але гэта звычайна ў выпадку зь незвычайнымі, такая натуральная рэакцыя адразу, у першы момант. Потым ужо думка страчвае натуральнасьць і чарнее. Урэшце, таго, пра каго размова, пачынае не хапаць нам самім, і падман ужо немагчымы.

Калі гаворка пра М.Б., вестку прызнаць трэба адразу.

«Так, я памёр», — нібыта ад яго чуем. Ад гэтага ён сам першы быў уражаны, але потым акрыяў ад шоку і ў складаньні свайго жыцьцяповеду павінен браць жывы ўдзел.

Ён азірнецца, прыгладзіць валасы, стрэліць поглядам у газэту газэту.

Разломіць хлеб, пачне наліваць віно ці ваду.

Цяпер вось, глядзіць проста на нас.

Прызвычайваецца, думаю я, і сорамам заліваюся канчаткова.

*Нікшыч, 16 сакавіка 1991.*

Пераклаў з сэрбскахарвацкай Іван Чарота

# ЗАЛАТЫ ВЕК АМЭРЫКАНСКАГА

Томаш Мірковіч

**У лютым летась у «Washington Post» зьявілася рэцэнзія Чарлза Монэгана, якая пачыналася так: «Праз сто гадоў чытачы верагодна будуць глядзець на цяперашнюю эпоху як на залаты век амэрыканскага раману. Бясспрэчна сёньня жывуць і твораць як найменей тры пісьменьнікі, якіх можна залічыць да васьмі або дзесяці найвыдатнейшыхамэрыканскіх пісьменьнікаў усіх часоў — разам з Мэлвілам, Готарнам, Твэйнам, Джэймсам, Ўортанам і Фолкнэрам. Гэтыя трое — гэта Ўільям Гэдыс, Томас Пінчан і адносна менш вядомы Ўільям Волмэн, якому ўсяго толькі трыццаць тры гады».**

Я лічу, што гэтае меркаваньне зьдзівіць нашых чытачоў, якія сярод сучасных пісьменьнікаў спадзяваліся б хутчэй пабачыць знаёмыя прозьвішчы Сола Бэлаў, Нормана Мэйлера, Курта Вонэгута, Джозэфа Хэлера, Джона Ірвінга, магчыма Джона Апдайка або Філіпа Рота. У сапраўднасьці ж амэрыканскі літаратурны алімп выглядае зусім інакш. Сур'ёзныя крытыкі часта ставяць на першае месца менавіта Ўільяма Гэдыса (нар. 1922), вядомага найперш з раману «Цясьлярская готыка» (1985), у якім пісьменьнік, карыстаючыся стэрэатыпнымі пэрсанажамі масавай літаратуры, малюе сатырычную карціну сучаснага амэрыканскага грамадзтва. Гэта сапраўды цудоўная кніга, хоць — згодна з аўтаравымі намерамі — больш даступная для сярэдняга чытача, а таму ніжэйшага палёту за вялікія творы, якім Гэдыс абавязаны сваёй высокай пазыцыяй у Амэрыцы: тысячастаронкавыя «Пазнаваньні» («The Recognitions», 1955) і сямсотстаронкавы «JR» (1975), ведамыя ў нас....

«Пазнаваньні», шматсюжэтны раман, у якім месьціцца ўся гісторыя заходняе цывілізацыі, гэта крыжовы паход супраць фальшывых вартасьцяў, які высочвае фальш, аблуду й позу ва ўсіх галінах жыцьця. Галоўны ягоны герой — мастак, які падрабляе карціны фляманцкіх майстроў, атаясамліваючыся зь імі духова, аднак выступаюць у рамане й фальшываманэтчык, шарлатан, які выдае сябе за лекара, і дзясяткі іншых незвыклых пэрсанажаў, якія з большай ці меншай шкодай спрабуюць падманваць сваіх блізкіх. «Бясплодная зямля» Эліота — гэта ўсяго толькі невялічкі куток гушчару, які так удала й праніклівa зьведвае Гэдыс», — пісаў Сьцюарт Гілбэрт, Джойсаў сябар.

Аднак нягледзячы на ўхвальныя галасы некалькіх важкіх крытыкаў, раман аказаўся занадта наватарскім для сярэдзіны пяцідзясятых і дачакаўся сапраўднага прызнаньня толькі праз дваццаць гадоў, у пэрыяд росквіту постмадэрністычнага раману. Якраз у тым часе Гэдыс выдаў другую кнігу, «JR» (1975), пабудаваную — як «Цясьлярская готыка», а таксама апошняя кніга «A Frolic of His Own» (1994) — амаль выключна з хуткіх, абрывістых дыялёгаў, якія цудоўна перадаюць энтропію мовы й немагчымасьць сапраўднага паразуменьня. «JR» — гэта таксама крыжовы паход супраць фальшывых вартасьцяў, аднак гэтым разам мішэнняй для сваіх атакаў аўтар выбірае сымбаль сьвету, апанаванага культам грошай: біржу.

У адрозьненьне ад «Пазнаваньняў», сур'ёзнага раману, вытрыманага ў духу, падобным да твораў Пруста, Джойса й Мана, «JR», пародыя на амэрыканскі міт «ад чысьцібота да мільянэра», вылучаецца гумарам і іроніяй, г.зн. рысамі характэрнымі якраз для постмадэрнізму. Галоўны герой «JR» — вучань сярэдняй школы, які, пачынаючы гульню на біржы ад адной акцыі, якую купіла разам уся ягоная кляса, становіцца ўладальнікам велізарнай карпарацыі, што складаецца з сотняў прадпрыемстваў. Ніводзін з дырэктараў, інжынэраў, генэралаў і кансультантаў, што працуюць на яго, вядома ж, і не ўяўляюць сабе, што іхны шэф — адзінаццацігадовы хлопчык, які тэлефануе з вулічнай будкі, для якога вялікі сьвет бізнэсу амаль ня розьніцца ад настольнай гульні, а зарабляныя мільёны — ад штучных грошай, ужываных гульцамі. Але й сама біржа, хоць яе нечаканыя завароты могуць спрычыніць падзеньні ўрадаў, эканамічныя крызысы, масавае беспрацоўе й тысячы чалавечых трагедыяў, — гэта ня што іншае, як гульня ў манаполію для дарослых; тут таксама ўсім кіруе выпадак, усё астатняе ня лічыцца.

«A Frolic of His Own» — гэта ў сваю чаргу зьедлівая сатыра на амэрыканскую юрыдычную сыстэму, расьцягнутыя ў бясконцасьць працэсы, у якіх сапраўды пераможным бокам заўсёды застаюцца адвакаты. «Справядлівасьць? Справядлівасьць чакае нас пасьля сьмерці, на тым сьвеце йснуе выключна закон», — сьцьвярджае ўдачлівы адвакат у першым сказе раману. Няйстотная сама справядлівасьць, няйстотна нават, чым скончыцца працэс, бо заўсёды знойдуцца падставы да апэляцыяў, і юрыдычны мэханізм можа круціцца бясконца, наколькі хопіць кліентавай кішэні. Сабака, які ўлез у сучасную скульптуру, што стаіць у парку, і ня здолеў адтуль выбрацца, гіне ад удару маланкі, перш чым суд вырашыць, ці можна выразаць у творы мастацтва адтуліну, каб вызваліць жывёліну; але на гэтым справа зусім не канчаецца — працэсы паміж гаспадаром сабакі, скульптарам і мясцовымі ўладамі будуць цягнуцца доўгія гады, як і іншыя судовыя разборы ў рамане, апісаныя то сур'ёзна, то з прыжмураным вокам. Гэдыс сьмешыць і забаўляе, але ён адзіны сярод постмадэрністаў пісьменьнік, які мае сваю місію, ён нястомна б'ецца галавою аб мур, намагаючыся адкрыць нам вочы на бязглуздасьць пабудаванага намі сьвету.

Пра творчасьць Гэдыса з найвышэйшай павагаю выказваліся Ўільям Гас, Сынтыя Озік, Робэрт Грэйвз, Джозэф Хэлер, Сол Бэлаў, Луіс Акінклос (г.зн. як наватары, так і традыцыйныя пісьменьнікі), аднак мабыць найтрапней сфармуляваў сваю пахвалу Стывэн Мур, аўтар трох кніг, прысьвечаных ягонай творчасьці: «Раманы Гэдыса, калі разглядаць іх разам, складаюць найбольшае дасягненьне ў паваеннай амэрыканскай літаратуры. Але нават калі б у дзень выхаду ў сьвет «Пазнаваньняў» Гэдыс трапіў пад грузавік, гэты раман запэўніў бы яму пазыцыю аднаго з найвыдатнейшых пісьменьнікаў нашага часу».

На шчасьце Гэдыс жыве й піша, а ягоная творчасьць пасьлядоўна трымаецца на найвышэйшым узроўні. Ён працуе нясьпешна, ягоныя раманы выходзяць зь вялікімі перапынкамі. Зрэшты другі зь пісьменьнікаў, названых Монэганам, таксама не сьпяшаецца выдаваць свае кнігі: «Vineland» (1990) Томаса Пінчана (нар. 1937) выйшаў праз сямнаццаць гадоў пасьля яго славутай, таўшчынёю ў больш за сямсот старонак, кнігі «Вясёлка гравітацыі». «Vineland», раман пра састарэлых, мітычных герояў пратэсту шасьцідзясятых, на першы погляд здаецца няўдалым творам. Кідаецца ў вочы коміксавасьць пэрсанажаў, штучнасьць сэнсацыйнага сюжэту, бясконцыя звароты да тэлевізійных сэрыялаў, рок-музыкі, папулярных фільмаў, спорту, тэхнічных вынаходак, але якраз гэтак выглядае масавая культура Амэрыкі, якою Пінчан — надзелены выдатным слыхам, калі гаварыць пра моўныя навацыі — з аднаго боку забаўляецца, а з другога ўзьнімае да вышыняў сапраўднага мастацтва. З гэтага гледзішча ён найбольш амэрыканскі з усіх постмадэрністаў (ангельскія крытыкі скардзяцца на цяжкасьці з разуменьнем ягоных кніг), што часткова заўважаецца таксама ў ягоным рамане «49 ідзе з малатка» (1967), хоць у ім прысутнічаюць і эўрапейскія, нават сярэднявечныя сюжэты.

Гераіня твору — як і апавядальнік іншага захапляльнага раману таго часу, «Пераменаў» (1962) Хары Мэцьюза — імкнецца разблытаць загадку тэстамэнту памёрлага мільянэра, аднак усе сьляды вядуць у нікуды, яны множацца й перакрыжоўваюцца: у сучасным сьвеце няма відавочных рашэньняў і адназначных адказаў. Нягледзячы на тое, што аўтар спрабаваў у апошнюю хвіліну забраць гэты кароткі раман з друку, ён урэшце даволі паказальны для ягонае творчасьці, хоць яму й далёка да «V.» (1963) і «Вясёлкі гравітацыі».

«V.» было адкрыцьцём пачатку шасьцідзясятых; у ім Пінчан упершыню прадставіў сваю змоўную тэорыю гісторыі. Герой раману, імкнучыся раскрыць праўду аб сьмерці бацькі, трапляе на сьлед таямнічай V, якая брала нейкі няясны ўдзел у стварэньні сучаснага сьвету, заўсёды будучы там, дзе адбывалася нешта важнае, ад Сараева да бамбардаваньня Мальты. Можа V — таемная агентка, можа кібарг — слаба зьвязаныя між сабой эпізоды з розных месцаў і з розных пэрыядаў найноўшай гісторыі не прыносяць ніякага канчатковага рашэньня, але і ў сьвеце, бачаным Пінчанавымі вачыма, дзе, як здаецца, пануе параноя, бязлад і энтропія, адказу проста няма. Затое адзін з найважнейшых ключоў да самога раману — «Кібэрнэтыка й грамадзтва» (1954) Норбэрта Вінэра, якая зрабіла таксама ўплыў на Ўільяма Гэдыса, а магчыма й на іншых амэрыканскіх пісьменьнікаў, якія ахвотна зьвяртаюцца да навуковых працаў, каб спазнаць і апісаць тое, што дзеецца навокал.

Статыстыка, балістыка, біхейвіярызм, лінгвістыка, матэматыка — вось толькі некаторыя галіны ведаў, зь якімі сутыкаецца чытач «Вясёлкі гравітацыі», якую шмат крытыкаў дагэтуль лічаць найвыдатнейшым паваенным амэрыканскім раманам. Пасьля «V.» лічылася, што Пінчан больш нічога не напіша, а ў найгоршым выпадку, што яго чорны, гнятлівы вобраз знойдзе свой эпілёг у псыхіятрычным шпіталі. Ніхто не спадзяваўся, што праз дзесяць гадоў ён напіша такі вялікі й цудоўны твор — паранаідальны псэўданавуковы вобраз нараджэньня паваеннай Эўропы, гісторыю дзевяцёх месяцаў перад самым канцом другой сусьветнай вайны й якраз пасьля яго. Шматсюжэтны раман, у якім дзеяць каля сотні пэрсанажаў, лучыць сярод іншага лёс амэрыканскага афіцэра — а пазней дэзэртыра — з траекторыяй ракет V2, якія падаюць якраз там, дзе ён апошні раз меў эрэкцыю. V2, прадвесьнік ядзернай зброі, у цяню якой Амэрыка жыла ад канца пяцідзясятых — пра што пісьменьнік згадвае ва ўступе да зборніка сваіх раньніх апавяданьняў «Запаволены Вучань» (1984) — гэта адначасова Эрас і Танатас, пачатак і канец; яе палётам пачынаецца кніга, а канчаецца яна падзеньнем ракеты на аўдыторыю, у якой ёсьць і мы самі, чытачы, дзе ўсе сьпяваюць разам пурытанскі гімн да няіснага Бога.

*****

Амэрыканская літаратура, зрабіўшы кола, у крыху зьмененай форме вярнулася да мэтафікцыі, — гэткае акрэсьленьне атрымалі манумэнтальныя постмадэрністычныя раманы, апагей якіх прыпаў на сямідзясятыя гады, калі апрача «Вясёлкі гравітацыі» Пінчана й «JR» Гэдыса зьявіліся таксама «Патрон чуйнасьці» («Lookout Cartridge», 1974) Джозэфа МакЭлроя, «Зорка Ратнэра» («Ratner's Star», 1976) Дона ДэЛіла, «Публічнае спаленьне» («The Public Burning», 1977) Робэрта Кувэра, «Лісты» («Letters», 1979) Джона Барта і «Mulligan Stew» (1979) Гілбэрта Сорэнтына.

Ўільям Т.Волмэн, трэці зь сьпісу найвыдатнейшых сучасных пісьменьнікаў Монэгана — які мімаволі амаладзіў яго на два гады, бо Волмэн нарадзіўся ў 1959 годзе — прадстаўнік зусім іншага пакаленьня, чым Гэдыс і Пінчан, хоць ягоны раманны цыкл «Сем сноў: Кніга паўночнаамэрыканскіх краявідаў» («Seven Dreams: A Book of North American Landscapes») нагадвае іхныя творы сваім размахам. Калі гаварыць пра Волмэнавых аднагодкаў, дык можна знайсьці яшчэ некалькі цікавых твораў, якія ўяўляюць сабой вяртаньне да постмадэрністычных традыцыяў; гэта будуць найперш «Мятла сыстэмы» («The Broom of the System», 1987) Дэвіда Фостэра Ўолэса, «Дапаможнік для разгубленых» («A Guide For the Perplexed», 1992) Джонатана Леві, пісьменьніка, параўноўванага з Джонам Бартам, Умбэртам Эка і Гюнтэрам Грасам, адзначаны прэміяй Пэн/Фолкнэр «Канец сьвету» («World's End», 1987) Т.Корагесана Бойла, аўтара некалькіх тамоў цудоўных апавяданьняў, а таксама «Прыйдзі ў нядзелю» («Come Sunday», 1988) Брэдфарда Мораўа (нар. 1951), дэбют пахвалены сярод іншых Ўільямам Бэроўзам, Ўолтэрам Абішам, Джонам Хоўксам, Джозэфам МакЭлроем і Хары Мэцьюзам. Гэтыя пахвалы на першы погляд здаюцца дзіўнымі, бо натуральней было б спадзявацца барацьбы пакаленьняў. І барацьба сапраўды адбываецца, але супольным ворагам постмадэрністаў і іх пасьлядоўнікаў выступаюць пісьменьнікі-мінімалісты й пабытовыя рэалісты, якія пачалі сьвяткаваць крытычныя й камэрцыйныя посьпехі ў першай палове васьмідзясятых гадоў.

Вяртаньне да постмадэрнізму ўласна кажучы ўяўляе сабою пратэст супраць мінімалізму, узьнікненьне якога ў сваю чаргу было выяўленьнем бунту супраць гігантаманіі сямідзясятых. Мінімалісты апусьцілі літаратуру з мэтафікцыйных вышыняў і ўціснулі ў цесныя рамкі фармальна ўбогіх і зьместава рэалістычных апавяданьняў. Бацькам і зоркай гэтага напрамку, у якім зь пераменным посьпехам спрабуюць свае сілы шмат маладых пісьменьніц, гэткіх як Кэралін Чут, Бобі Эн Мэйсан, Джэйн Эн Філіпс, Дэбра Спарк і Элізабэт Талент, быў Рэймaнд Карвэр.

Цікавейшым за мінімалізм выглядае вырасьлы на падобным грунце нью-ёркскі пабытовы рэалізм, які дакумэнтуе жыцьцёвы стыль дзіўнага сплаву мастакоў, багемы і маладых біржавых маклераў, што зарабляюць шалёныя грошы. Найбольш прадстаўнічыя кнігі — «Рабы Нью-Ёрку» («The Slaves of New York») Тэймі Янавіц, «Вялікі горад, яркія агні» («Bright Lights, Big City», 1984) Джэя МакІнэрні, а перадусім трэці раман Брэта Істана Эліса «American Psycho» (1991). Публікацыя гэтай кнігі выклікала скандал, бо «Сайман і Шустэр», выдавецтва, зь якім трыццацігадовы на сёньня Эліс быў зьвязаны дагаворам, адмовілася ад публікацыі раману, назваўшы яго «агідным». Цяжка не пагадзіцца, што апісаная ад першай асобы гісторыя маладога фінансыста, які катуе, забівае, разразае й

# РАМАНУ



есьць жанчын, сапраўды ў некаторых мясьцінах выклікае агіду. І разам з тым з шмат якіх гледзішчаў гэта выдатны раман, які цудоўна перадае дух рэйганаўскай эпохі, характарызаванай жыцьцём у крэдыт і важнасьцю ўдаванай прыстойнасьці. У гермэтычным, скадыфікаваным манхэтэнскім грамадзтве, паказаным у рамане, найболей вагі надаецца таму, як хто апранаецца, што есьць, колькі важыць, дзе жыве, дзе бывае, якую ўжывае касмэтыку, і ўсё гэта даведзенае да такога абсурду, што поўкілаграма лішняе вагі складаюць прычыну трагедыі, а ранішні туалет маклера цягнецца даўжэй, чым у дэндзі з васямнаццатага стагодзьдзя.

Эліс дэбютаваў у дваццаць адзін год раманам «Менш за нуль» («Less than Zero», 1986) пра каліфарнійскіх падлеткаў, наркотыкі й бісэксуалізм, першым літаратурным творам пра Пакаленьне Х. Нядаўна ён скончыў чацьверты раман, «The Informers», пра які сам кажа: «Гэта калейдаскапічны, раздроблены вобраз Лос-Анджэласу з пачатку васьмідзясятых. Нібы дзёньнік, ведзены апошнія дзесяць гадоў. Там шмат выдуманага. Шмат і нявыдуманага. Шмат — проста дзёньнікавыя нататкі». Эліс, які сваім узорам лічыць журналістку й раманістку Джоан Дыдыен (нар. 1934), бясспрэчна надзелены выдатнай назіральнасьцю, ён дасканалы храніст свайго часу; з «American Psycho» можа параўнацца хіба толькі прыналежны да тае самае плыні нью-ёркскага рэалізму «Вогнішча пыхлівасьцяў» («The Bonfire of the Vanities», 1987), першы раман Тома Вулфа (нар. 1931), аднаго з бацькоў і галоўнага ідэоляга Новага Журналізму.

Новы Журналізм — другая побач з постмадэрнізмам найцікавейшая літаратурная зьява Амэрыкі шасьцідзясятых і сямідзясятых, якую акрэсьліваюць таксама тэрмінам literary nonfiction. Запачаткаваны раманам «З халоднай крывёю» (1966) Трумана Капотэ, ён быў у пэўнай ступені адказам на час, у якім рэчаіснасьць станавілася дзівоснейшая й чараўнейшая за выдумку. У вялікім уступе да анталёгіі «New Journalism», выдадзенай у 1973 годзе, Вулф напісаў, што сучасны раман не апраўдае ўскладаных на яго спадзяваньняў, бо пісьменьнік павінен быць ня творцам, а назіральнікам, які ўваходзіць у доўгі, хай сабе й вельмі крытычны дыялёг з грамадзтвам, тымчасам як пасьля другой сусьветнай вайны пісьменьнікі цалкам адыйшлі ад рэалістычнага раману, ствараючы «раманы ідэі, фройдаўскія, сюррэалістычныя, кафкаўскія раманы, і нарэшце кататанічныя раманы, у якіх пануе нерухомасьць».

Прагал, які ўтварыўся пры зьнікненьні рэалістычнага раману, быў запоўнены якраз новым журналізмам, які карыстаецца раманнымі прыёмамі, аднак апавядае пра сапраўдныя падзеі. Ён дзяліўся на два тыпы: безасабовы, калі аўтар у меру аб'ектыўна перадае ход падзеяў, як у выпадку з «З халоднай крывёю» Капотэ, «С-кадры» (1979) Вулфа, «Песьні ката» (1979) Нормана Мэйлера, а таксама асабовы, вельмі суб'ектыўны, калі аўтар бывае адначасна і ўдзельнікам, і камэнтатарам падзеяў: «Войскі ночы» («The Armies of the Night», 1968) Мэйлера, «Страх і нянавісьць у Лас-Вэгасе» («Fear and Loathing in Las Vegas», 1971) Хантэра С.Томпсана. Вулф лічыў, што новы журналізм выцесьніць раман, бо спажыўцы больш любяць чытаць пра падзеі, якія адбываліся ў сапраўднасьці. І хоць так ня сталася, новы журналізм — прадстаўлены сярод іншых і згаданай раней Джоан Дыдыен — назаўсёды зьмяніў жанр рэпартажу ў Злучаных Штатах, а тым самым і ў іншых краінах; ён бясспрэчна меў уплыў і на аўтараў раманаў, якія штораз сьмялей пачалі ўводзіць у свае творы сапраўдныя гістарычныя постаці і сапраўдныя падзеі.

Скрайні прыклад у гэтым сэнсе ўяўляе сабой найноўшы раман Кэна Кізі «Радза» (1994). Кізі — сам герой адной з найвядомейшых кніг Вулфа «The Electric Kool-Aid Acid Test» (1968) — падаў у «Радзе» гісторыю сапраўдных каўбойскіх спаборніцтваў, якія адбыліся ў Пэндлтане ў 1911 годзе. Ці раман, у якім зьмяшчаюцца фатаграфіі галоўных герояў, усё яшчэ застаецца раманам? Відавочна так. Факт, што нават сам Вулф урэшце дэбютаваў як раманіст, найлепей сьведчыць аб тым, што раман можа мяняцца, узбагачацца іншымі гатункамі творчасьці, але ніхто ня ў стане яго замяніць, тым часам як нават найлепшыя рэпартажы не вытрымваюць выпрабаваньня часам і хутка пачынаюць пакрывацца плесьняй.

Творчасьць Волмэна ў значнай ступені спалучае мэтафікцыю менавіта з «асабовым» журналізмам. Зрэшты, зьбіраючы матэрыял для сваіх раманаў, пісьменьнік працуе як журналіст, езьдзячы па сьвеце на замову выданьняў, гатовых фінансаваць ягоныя рызыкоўныя прадпрыемствы. Афганістан. Самалі. Боснія. Часта ён глядзіць у вочы сьмерці. У Босьніі машына, у якой ён быў разам з двума сябрамі, наехала на міну. Сябры загінулі на месцы. Волмэн выжыў толькі таму, што сядзеў ззаду й меў на сабе бронежылет. Ён высочваў у Азіі гандляроў гераінам, жыў у пакінутай арктычнай станцыі. Пасьля вяртаньня з Афганістану ў 1982 годзе — побыт сярод маджахедынаў ён апісаў у «Афганскіх кінакарцінках» («An Afghanistan Picture Show», 1992) — ён працаваў кампутарным праграмістам; у тым часе ён стварыў свой першы, вельмі дзіўны раман «Вы, сьветлыя ўваскрослыя анёлы» («You Bright and Risen Angels», 1987), хроніку вайны паміж «рэвалюцыйнымі» інсэктамі і «рэакцыйнай» электрычнасьцю.

Неўзабаве аднак ён прызнаў — як ён тлумачыць у адным інтэрвію — што «выдумляць занадта проста; я хачу, каб тое, што я апісваю, было сапраўднае». Прагнучы даведацца як найболей пра жанчын, ён пачаў спаць з прастытуткамі, ужываць зь імі crack. Інтэрвію з прастытуткамі, наркаманамі й бяздомнымі з Сан-Францыска сталіся падставай дзьвюх кніг-псэўдарэпартажаў: «Вясёлкавыя гісторыі» («The Rainbow Stories», 1989) і «Курвы для Глорыі» («Whores for Gloria», 1991). Летась ён выдаў «Матылькова гісторыі» («Butterfly Stories»), раман пра AIDS, заснаваны на ўласным досьведзе з бардэляў у Тайляндзе й Камбоджы. Герой усіх гэтых кніг — сам аўтар, падобна як Гей Талізі, адзін з творцаў «асабовага» новага журналізму, які апісаў трыманы ім самім масажны кабінэт і іншыя дасьведчаньні з жанчынамі ў «Шануй жонку бліжняга твайго» («Honor Thy Neighbor's Wife»). Але хоць герой Волмэна — крываваты й блізарукі, якому не дазваляецца вадзіць машыну, тоўсты, нязграбны — выразна нагадвае самага пісьменьніка, Волмэн уводзіць у свае творы штораз болей выдуманых элемэнтаў, сьціраючы мяжу паміж рэальнасьцю й фантазіяй.

Яшчэ дзіўнейшыя рэчы адбываюцца ў заплянаваным ім цыкле зь сямёх раманаў «Сем сноў: кніга паўночнаамэрыканскіх краявідаў», зь якіх дагэтуль выйшлі ўжо тры: «Ледзяная кашуля» («The Ice-Shirt», 1990), «Айцы й вароны» («Fathers and Crows», 1992) і «Стрэльба» («The Rifles», 1994). Гэтая сьмелая задума мае ўяўляць сабою апісаньне чарговых канфрантацыяў паміж захопнікамі з Эўропы і паўночнаамэрыканскімі індыянамі. Першы раман апавядае аб прыбыцьці скандынаваў, другі — аб кантактах індыянаў зь езуітамі, трэці (храналягічна шосты) — гэта гісторыя няўдалых пошукаў паўночна-заходняга праходу, якія вёў у сярэдзіне дзевятнаццатага стагодзьдзя сэр Джон Фрэнклін. Аднак мінуўшчына мяшаецца зь сёньняшнім днём, а галоўны пэрсанаж — гэта перадусім чарговае alter ego самога Волмэна; мы чытаем пра ягоны раман з эскімоскай дзяўчынай, пра яго самотны дванаццацідзённы побыт на пакінутай арктычнай станцыі пры саракаградусным марозе. Бо Волмэн хоча як найлепей спазнаць тое, што перажылі ягоныя героі. Калі ён ня можа перанесьціся ў тыя часы, дык прынамсі хоча наведаць тыя самыя мясьціны, выкупацца ў той самай рацэ...

Цыкл Волмэна — пісаны рознымі шрыфтамі, забясьпечаны камэнтарамі й слоўнікамі — абяцае быць творам даўжэйшым за «ЗША» (1930-1936) Дос Пасаса або «Ерусалімскі квартэт» (1977-1987) Эдварда Ўітмара. Волмэн часта працуе шаснаццаць гадзін штодня, пішучы паперамення чарговыя тамы цыклу, іншыя раманы й драбнейшыя тэксты. Ён сам ілюструе некаторыя свае кнігі, а ў дадатак выраблае нязвыклыя «спэцыяльныя выданьні» — як выдадзеная ў дзесяцёх асобніках «Зьняволеная птушка» («The Convict Bird»), кніга пра пісьменьнікаву знаёмую, засуджаную на пажыцьцёвае зьняволеньне; кожны асобнік месьціцца ў дзесяцікілаграмовай сталёвай клетцы з закратаваным акенцам і вісячым замком. Іншае «спэцыяльнае выданьне» — гэта скрынка з дрэва й шкла, якая мае прадстаўляць масажны салён і ў якой апрача тэксту можна пабачыць чырвоныя лямпачкі, люстэркі, званок і кавалак бялізны.

Волмэн — сапраўды нязвыклы пісьменьнік — «гэта зьява, якая сустракаецца раз на некалькі пакаленьняў», як адзначаецца ў «Madison Smart Bell». Але разам з тым гэта дзіўны пісьменьнік, раздражняльны, чужы. Ён піша пра сябе, а таксама ахвотна апавядае ў інтэрвію з эксгібіцыяністычнай шчырасьцю, зусім інакш, чым аўтары мэтафікцыі. Гэдыс доўгія гады адмаўляўся даваць інтэрвію, а Пінчан ня толькі не дае інтэрвію й не паказваецца публічна — прэмію National Book Award атрымаў, выдаючы сябе за пісьменьніка, наняты ім актор — але й так старанна хавае ў сакрэце месца свайго побыту, што нікому яшчэ не ўдалося яго сфатаграфаваць. Затое Волмэн выдае найінтымнейшыя падрабязнасьці й не шкадуе дзяліцца самымі балючымі перажываньнямі — такімі, як сьмерць шасьцігадовай сястры, якая ўтапілася ў плыткай сажалцы, бо ён яе не дапільнаваў, зачытаўшыся кнігай. Яму было тады дзевяць гадоў.

Сьпіс найболыш чытаных Волмэнам кніг, апублікаваны ў «The Review of Contemporary Fiction», пачынаецца «Сучасным соньнікам» Тадэвуша Канвіцкага, пісьменьніка, які гэтаксама часта сьціраe мяжу паміж аўтарскім і апавядальніцкім «я». Ёсьць у сьпісе й яшчэ адзін ключ да незвычайнай творчасьці Волмэна: «Сем слупоў мудрасьці» (1926) Т.Лорэнса, ведамага таксама як Лорэнс з Арабіі.

# Што пішуць?

Добры дзень маёй «Нашай Ніве»!

Я — сялянская дачка і што я магу сказаць арыстакратам? Хіба тое, што ў нашай вёсцы была свая духоўная настаўніца (яна й цяпер жыве) з бальшавіцкай мянушкай «Божанька». Заццятая каталічка, яна з-пад каменьняў і друзу разбураных касьцёлаў упарта вышуквала й знаходзіла, і несла нам, дзецям, а таксама дарослым «паўгалоўкам» Сьвятую Каляду. На шчасьце неадукаваная — яна вучыла нас «тутэйшасьці». Гэта мы, абразаваныя янычары, пры сустрэчы зь ёю выціскалі зь сябе: «Зраствуйце». А яна папракала нас: «Усё па-руску, а чаму «Добры дзень» не дасі»? Яшчэ быў у нас Янусь, ужо нябожчык, які зьбіраў маладых валачобнікаў на Вялікдзень. «Ці можна сьвята павялічыць?» — так шляхетна, далікатна пытаўся завадатар у гаспадара пад вакном. (Цяперашнія дзеці і ў Сьвяты вечар перад Калядамі без дазволу гаспадароў замзкаюць «Каляду-Каляду». «Абы насьціся багата».) Я ў маладыя валачобнікі ня трапіла, бо была малая, але чую іх — чула. Гэта, бадай што, увесь мой асабісты досьвед пра старабеларускае жыцьцё. Што дайшло да мяне з глыбінь вякоў, што змаглі мне перадаць мае прашчуры? Абрыўкі, абломкі, «недавяркі», «паўдуркі», «адламкі веры» — руіны... Ну а глыбей, далей што было??? Няўжо таксама — руіны? Пакутліва шукаю. Мая бабка-нябожчыца была шляхцянкай. Але гэтае адкрыцьцё я выцягнула з сутарэньня. Бацькоў маёй бабкі я ледзь-ледзь разгледзела ў сутоньні. А далей зусім поўная цемра, нават руінаў не відаць. Не, трэба, мусіць, шукаць у другім накірунку. Не, не шукаць, а зьбіраць каменьчык да каменьчыка, зьлепліваць драбінкі, кавалачкі ў вялікую груду, перасеяць нават друз. (А раптам у сьмецьці знойдзецца тое, з чаго можна стварыць нешта сваё... і не сваё, бо яно матчына, бабчына, прабабчына?) Цярпліва зьбіраю. «Я не паэта... От, ведама, зь вёскі», але, як мне здасца, і ў вясковы фальклёр можна зазірнуць, як у Біблію:

Вучыся танчыць, а рабоце — гора навучыць. Дабро пасееш — дабро й зьбярэш. Век жыць — ня мех шыць. Што вінен — тое аддаць павінен. Ні дай, і ні лай (пра жабракоў). Добраму чалавечку добра і ў запечку, а як якой благаце — дрэнна й на куце (пра гардыню). Свой з сваім сячыся, рубайся, а чужы не мяшайся. Ня радуйся, як знашоў, і не шкадуй як згубіў (філязофія). Не шукай бяды, яна сама цябе знойдзе. Адна бяда ня ходзіць — за сабой другую водзіць.

Дык вось пра бяду. Нашто яе шукаць гэтаму С.Д.? Мала адной — прыйдзе й другая: на ягоную сям'ю, на нашую Бацькаўшчыну. Чаму Вы ня сееце дабро, а займаецеся (выбачайце) мастурбацыяй на мёртвым зьбе Беларусі?! Ведама, Максім-кніжнік ня быў сьвяты, але для нас, беларусаў, Ён быў Богам дадзены. І зусім неістотна, з Расеі ці з Турцыі выправіў Яго нам Пан Бог. І я вось думаю, ці сумяшчальныя наогул словы цягавітасьць, трывушчасьць, стабільнасьць з паняцьцем арыстакратызм. Няўжо арыстакратыя — гэта заўсёды вэрхал, хаос, слабасьць і, як вынік, здрада? Вось і Агінскі, кажуць, пасьля свайго Паланэзу — у 1812 годзе перакінуўся на бок Расеі. Зрэшты, што гэта я трызьню пра арыстакратаў, знаходзячыся сярод абарыгенаў, скігітлівых парсючкоў, што рохкаюць ля карытка з бацьвінкай, скігічуць, скігічуць, а потым каторы, натапырыўшы хібок, і барсане лычом, барсане свайго братку-свінчо і за карак яго ўхопіць — і заенчыць, і заякоча зноў сам. І памкнецца хламкаць першы.

На Дзяды я езьдзіла ў Курапаты. Мяне вельмі ўразіла, калі я пачула, як ужо немаладая жанчына-адэсітка горача агітавала шанаваць Пазьняка. («Он гонимый властью... ему Нобелевскую премию бы дать!») Пра тое ж ня менш горача выгукваў у тралейбусе малады чалавек — рускі па нацыянальнасьці («Русские и своих лучших людей травят: Пушкин, Лермонтов...») Ну дык што: будзем рохкаць і далей, браткі-беларусы?!

А ў нашай ціхай вёсачцы забіваюць людзей, і людзі самі вешаюцца, і хаваюць нябожчыкаў на неабгароджаных могілках, дзе вольна пасьвяцца сьвіньні, коні, каровы. Ёсьць у нас і моцныя гаспадары, што пашырылі агароды да самых могілак, ды абнесьлі свае ўладаньні надзейнай агароджай. А тая наша вясковая прарочыца зьбіралася ў «дом састарэлых», а пакуль ходзіць у абносках па вёсцы й дзякуе багатым сваякам за падачкі да ейнага нэндзнага стала.

Так гаварыў і з рабства клікаў
Людзей на волю той прарок,
Жлучы з трывогаю вялікай
Ад іх адказу неўнарок.

А людзі, глянуўшы на сонца,
Адказ казалі грамадой: —
Па колькі ж нам дасі чырвонцаў,
Калі мы пойдзем за табой?

Значыць, рэч усяго ў чырвонцах, якія можна ўзяць толькі з арыстакратаў. А іх у нас няма. Ёсьць толькі «скігітлівыя парсючкі». А тым нешматлікім людзям зь беларусаў застаецца толькі сеяць дабро, у надзеі, што нскалі яны, ці іхныя ўнукі зьбяруць дабро. Так вучыць вясковая Біблія.

Цікава, што зробяць палякі, калі даведаюцца, што ля вёскі Чурылава, на Мёршчыне, Віцебскай вобласьці, заціснутыя сярод ворыва пахіліліся гаротнымі жабракамі, іхнія, польскія крыжы. Па амаль сьцёртаму надпісу я ледзь разабрала, што там пахаваныя польскія жаўнеры, палеглыя ў польска-бальшавіцкую вайну. Ці ёсьць у палякаў арыстакраты з чырвонцамі, каб упарадкаваць магілы?

Мо й залішне я нагаварыла тут усяго Вам. Ня гнявайцеся, бо «хто каго любіць — той таго чубіць».

Жадаю Вам стваральнай творчасьці, той, што йдзе ад Бога.

Л.Г.

*Койданава*

P.S. На душы стала лягчэй і пусьцей, мабыць, частка яе адарвалася ад мяне й паляціць да Вас, разам з гэтым лістом. Страчайце яе...



*Рэдакцыя «Нашай Нівы» дзякуе нашым сталым чытачам Клаўдзіі Анісавай зь Сьвіслачы Менскай вобласьці і Ігару Цуранаву зь Віцебску, а таксама ўсім, хто павіншаваў нас з Калядамі і Новым годам. Акрамя гэтага мы віншуем нашага чытача і фундатара Аляксандра Яфімовіча з Магілёва і ягоную жонку Галіну з тым, што ў іх нарадзілася дачка Яня.*

Гэты нумар «НН» выдадзены коштам Магілёўскай рады БНФ, якая ахвяравала на газэту $1000.



**НАША НІВА** №1 (31) Беларуская газэта. Заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991. Рэдактар Сяргей Дубавец. Заснавальнік і выдавец Павал Жук. Адрасы для допісаў: 220123 Менск, а/с 71 альбо 2041 Вільня, а/с 2082. Падпісны індэкс 63125, Steigimo liudijimas Nr.1178. Рэдакцыя (Менск, Іванаўская 56 альбо Вільня, Жыгімонта 12/2): Алег Дзярновіч (адк. сакратар), Сяргей Харэўскі (маст. рэдактар), Андрэй Антонаў (набор); пры ўдзеле Сяргея Шупы. Афсэтны друк. Фармат А3. Агульны наклад 20 тыс. Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку» (220041 Менск, пр. Скарыны, 79). Кошт дамоўны.
Падпісана ў друк 8.11.95 Замова 1:8

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12